Фядотаў, Ф.
Ф 99 На маёй радзіме, Беларусі...: вершы, паэмы, апавяданні / Феакціст Фядотаў. – Полацк, 2012. - ...с.

Кніга Феакціста Фёдаравіча Фядотава знаёміць з паэзіяй і прозай, якія ён напісаў напачатку новага тысячагоддзя.

Творчасць Фядотава прысвечана тэме сацыяльных перамен у жыцці грамадства. Ён закранае экалагічнае становішча ў нашай краіне і паказвае цесную сувязь чалавека з прыродай. У кнізе прадстаўлена і любоўная лірыка. Многія творы прысвечаны людзям, з якімі звязаў лёс.

ББК 84(4Беі)

## ПРА СЯБЕ

Нарадзіўся я 9 студзеня 1951г. недалёка ад Глыбокага ў вёсцы Новае Запалоўе былога Плiскага раёна. У памяці захавалася драўляная дзедава хата на ўскрайку лесу, да якой уначы, па аповедам бабулі, Фядотавай Домны Кірылаўны, прыходзілі ваўкі, каб прыхапіць з сабой якога-небудзь не вельмі спрытнага на ногі цюціка.

Найбольш глыбокія ўспаміны засталіся ад хутара Петрунова, дзе сям'я жыла пазней і дзе зараз знаходзіцца вядомы на Віцебшчыне інтэрнат для адзінокіх састарэлых людзей.

Рознакаляровы духмяны бэз пад блакітам бяздоннага неба, у два абхопы ліпы і асіны са шматлікімі птушынымі гнёздамі, купкі мяты, прытоеныя кусты парэчак і агрэсту з гронкамі салодкіх ягад, чарэшні слівы... А яшчэ – пачарнелыя рэшткі панскага будынка, як сімвала іншага часу іншай культуры, напаўнялі маё сэрца любоўю да прыроды і цікавасцю да роднага краю.

Добра памятаю пах жытнёвага хлеба, выпечанага на зялёным аеры ці на кляновых лістах і выцягнутага з печы на драўлянай лапаце.

Кіламетры праз тры на беразе Марцыбылінскага возера жыла мая бабуля па маці Варвара Кірылаўна і дзядуля Адоля (Чымкоўскі Адольф Сцяпанавіч). Праўда, гэта было другое бабуліна замужжа. Свайго кроўнага дзеда я ніколі не бачыў, бо яго забілі немцы, прыняўшы за партызана, калі ён вярхом на кані вяртаўся з Беразвечча. Таго самага Беразвечча, у якім і зараз уражваюць збудаванні старажытнага кляштара і якое ў 1812г. наведаў сам Напалеон Банапарт.

Бацька мой працаваў на чыгунцы, да якой было сем кіламетраў.

На ўсё жыццё запомніў першы навагодні падарунак, які ён прывёз з працы, – да таго невядомыя апельсіны, шакаладныя цукеркі ў залацістай абгортцы, халва ў прыгожай бляшанцы, вафлі і грэцкія арэхі.

У 1959г маці адвяла мяне ў школу. Вучыўся я ў Мярэцкаўскай, цалкам беларускамоўнай, школе, да якой было тры кіламетры хады праз невялікі барок са старымі каталіцкімі могілкамі. На іх да цяперашняга часу захаваліся лацінскія надпісы і, па аповядах старых людзей, пахавальны панскі склеп.

У пятым класе я быў перакананы, што больш прыгожых жанчын, чым настаўніцы беларускай і рускай літаратуры, няма ў свеце. У сёмым класе "захварэў" на вершы. Жаданне выразіць сябе праз слова прыйшло нечакана зімовым калядным вечарам. У гэты час

бабуля спала на печы, дзед быў у бальніцы, а я пры святле газнічкі рабіў урокі.

З 1964г і да заканчэння школы я жыў у сваіх дзядоў Чымкоўскіх. Дзядуля быў каталік, бабуля – праваслаўная. Менавіта з гэтай нагоды я двойчы на год святкаваў Раство Хрыстова і Вялікдзень. Даводзілася адбіваць паклоны ў царкве і касцёле. Жывучы ўтрох на дванаццаць рублёў дзедавай пенсіі, я навучыўся ўспрымаць жыццё такім, якім яно было на самой справе. Бабуля ведала розныя замовы, травы і ветліва сустракала тых, хто прыходзіў да яе па дапамогу. Мы з дзедам займаліся рыбнай лоўляй і іншай працай, без якой немагчыма жыццё на хутары, дзе не было нават электрычнасці.

Пасля заканчэння васьмігодкі мне вельмі захацелася быць вайскоўцам, і я апынуўся ў аркестры дэсантнага палка, што знаходзіўся недалёка ад Наваполацка, у пасёлку Баравуха - 1. Там я атрымаў пачатковае панядце аб нотнай грамаце, музычных інструментах, навучыўся страляць з “калашнікава”. Калі прыходзіла чарга, дзяжурыў сігнальшчыкам на стрэльбішчы або ў штабе палка. Вечарамі разам з іншымі выхаванцамі наведваў мясцовую школу.

У наступныя гады, як мне падаецца, лёс быў дастаткова лагодны да мяне, хоць зусім пазбавіцца ад яго выбрыкаў не ўдалося. У 1970г. паступіў у Рыжскае мараходнае вучылішча, але згублены камсамольскі білет стаў падставай, каб на тры гады апынуцца ў марфлоце. Тым не менш, гэты час быў па-свойму цікавы і карысны, бо разам з рамантыкай марскіх дарог пад рознакаляровым ззяннем палярнага неба набываўся жыццёвы вопыт, які дапамагаў пераадольваць цяжкасці, а часам і сапраўдны жах.

Пасля службы, у 1978г.закончыў рыбагаспадарчы факультэт Маскоўскага інстытута харчовой прамысловасці пятнаццаць годоў адпрацаваў у Палярным навукова-даследчым інстытуце Мурманска. Гэта быў мой зорны час. Пашчасціла ўдзельнічаць у розных экспедыцыях ад Паўночнага Ледавітага акіяна да Паўднёвай Атлантыкі, вывучаць багатае і разнастайнае жыццё мораў і акіянаў, наведаць розныя краіны і часткі свету. Канарскія выспы, Гібралтар, Перу, Нарвегія, Панама, Англія, Шпіцберген, пра што раней нават не меў уяўлення, набылі канкрэтныя рысы. Усё гэта было па-сапраўднаму цікава.

Пачатак перабудовы вымусіў вярнуцца на Радзіму. Я быў упэўнены, што ў такія часы мы заўсёды павінны быць разам, і таму далейшыя гады жыцця былі прысвечаны роднай Полаччыне. Тэмы для вершаў і апавяданняў падказвае само жыццё, але найбольш блізкія мне пытанні экалогіі, аховы прыроды, нашай духоўнасці, бо без гэтага, па маім разуменні, няма будучыні.

# ПАЭТАМ МОЖАШ ТЫ НЕ БЫЦЬ...

На маёй Радзіме, Беларусі,
Зорачкі ў нябёсах давідна.
Тут Святланы, Юркі ды Марусі.
Тут валошкі, лён і збажына.

Тут у думках чыстых прага волі
І мае адвеку карані.
Што шукаць у свеце лепшай долі?
Тут яна, у кожным нашым дні!

## РАДЗІМА

Я стаю на зялёным узгорку
Пад блакітным абшарам нябёс,
А птушыная песня-гаворка
Далятае ад белых бяроз.
Шпарка крочу ўздоўж сенажаці –
Пахі мёду ад кветак і траў.
Вось і тая крынічка, дзе маці
Акрапіла вадою мне твар.
Адчуваю, як поўняцца грудзі
Духам продкаў у звонкім бары,
Тут дзяды нашы, вольныя людзі,
Залажылі дзяржавы муры.
Край прыдзвінскі, куточак мой мілы!
Без цябе сэрца болем шчыміць.
Нават птушкі, расправіўшы крылы,
Клічуць шчыра табой даражыць.

## Я ЖЫВУ НА ЗЯМЛІ,
## ДЗЕ ЎСЁ ДАДЗЕНА БОГАМ

Я жыву на Зямлі, дзе ўсё дадзена Богам,
Дзе лясы, і лугі, і азёраў блакіт,
Дзе зіма, і вясна, і пад сонцам дарога,
І дзе душы людзей, як замшэлы граніт.

Я жыву на Зямлі, дзе ссякаюць бярозы,
Дзе пачуеш не раз стрэл і крык жураваоў,
Дзе з параненых дрэў сок цячэ, нібы слёзы,
І рачная вада, як счарнелая кроў.

Я жыву на Зямлі, дзе струхнелі магілы,
Дзе гудзе Курапатаў затоены жах,
Дзе звычайнаму слову “каханы” ці “мілы”
Больш прывычны мацюк і гарэлачны пах.

Я жыву на Зямлі, дзе Чарнобыль у душах,
Дзе нашчадкі зракаюцца мовы бацькоў,
Дзе ссыхаюць дубы па знявечаных пушчах
І да Бога звярнуцца не ведаюць слоў.

Я жыву на Зямлі, дзе ўсё дадзена Богам,
Дзе лясы, і лугі, і азёраў блакіт,
Дзе зіма, і вясна, і пад сонцам дарога...
І дзе хочацца жыць, хоць на сэрцы граніт.

## ДА ДНЯ НАРАДЖЭННЯ
## ЯНКІ КУПАЛЫ

Даруй нам, брат, што мы няшмат зрабілі,
Не перайшлі ад цемры да святла,
І нават слова роднае згубілі,
А між людзей бяздушнасць зацвіла,
Што “мужыкамі” так і засталіся...
Герояў жа мы ўславілі чужых,
А каб не думаць, з большага спіліся,
Мінулае лупцуючы пад дых.
Ды ўсё ж мы ёсць! І погляд ясны, ветлы–

Не для таго, каб праўду толькі сніць,
Але наблізіць дзень, вялікі, светлы,
І гэтым днём бясконца даражыць.
Ну, а пакуль на нашай Беларусі,
Што б ні казалі розныя “браты”,
Я, як святла, да скону не зракуся
Тых звонкіх слоў, што нам пакінуў ты.

## “ПЕРАМОЖЦАМ”

спадкаемцам М. Мураўёва-Вешальніка

Скруцілі, зламалі, здушылі,
І голас здушылі, і рот.
Ну, што вам з таго, што забілі
Вы мову маю і народ?
Не прыйдзе да вас перамога.
Ці ж кара забойцаў міне!?
На гэтай зямлі мы ад Бога,
А вам ён у вочы зірне.
І нават, калі перамены
Наш сёння абыйдуць парог,
Дык рунню ж узыйдзем, праз гены.
І зноў узрасцём, як мурог.

## СУПРАЦЬСТАЯННЕ

Полацк мой! Я стаю, як і ты,
На зялёным наддзвінскім узвышшы.
Б’юць з нябёс перуны,
Разрываючы сонлівасць цішы.
А за сполахам вогненых дзід
Праплываюць стагоддзяў падзеі.
Тут сумленне – галоўны мой гід,
Што ад цемры вядзе да надзеі.
Да надзеі, і нам зразумець:
Мы на гэтай зямліназаўсёды!
І што будуць грымоты грымець,
Покуль самі не зведаем згоды.
Покуль будзем няпраўду трываць,

Сарамліва хаваючы вочы,
І баяцца, баяцца назваць
Тых, хто Полацк паліць быў ахвочы.
Тых, хто летапіс Полацкі скраў,
Каб забіць у вяках нашу памяць.
Хто Сафійскі сабор узрываў,
Каб святыняў народ наш пазбавіць.
Хто падзелы рабіў на крыві,
Адбіраючы родную мову.
Нават назву крывіцкай Літвы
Перайначыў у іншыя словы.

Полацк мой! Ты і сябра, і брат!
І я іншай зямлі не шукаю.
І таму тых стагоддзяў набат
Я выразна штодзень адчуваю.

## ПРАДВЕСНЕ

Вось, нарэшце, і скончыўся люты.
Перамогшы зіму і пакуты,
Растапіўшы снягі прамянём,
Сакавік заспяваў ручаём.
Толькі гэта, бясспрэчна, прадвесне,
Бо вятроў непрымальная песня
Ад паўночных лядовых муроў
Не прывабіла нават гракоў.
Не звіняць над зямлёй пералівы,
І шпакі не імкнуцца цярпліва
Хаткі-гнёзды свае аднаўляць,
На сялібах бацькоўскіх спяваць!
Што спяшацца? Не вабіць Радзіма,
Яе сцюжа для іх – злое дзіва,
Немагчыма тут вольна спяваць...
Ды жыцця пачуццё не стрымаць?
І таму яны ўсё ж прыляцелі,
На галінкі маўкліва прыселі,
Тут іх першы пачаўся палёт,
Тут каханне прыходзіць штогод.
Дык спявайце! Кахайце шчасліва.

На радзіме жывіце рупліва.
Ну, а нашых часоў халады
Красавік адвядзе малады.

## БАРАНІЦЬ!

Жаркім полымем сэрца,
Як чаргой з кулямёта,
Мы Радзіму павінны
Сваю бараніць!
Ад манкуртаў бязродных,
І ад тых, хто здалёку
На задворках імперскіх
Наракаюць нам жыць.

## НОВЫ ГОД

Новы год!.. Упрыгожана хата.
Зоркі ў небе яскрава гараць.
Ды і ў кожнага зранку багата
І пачуццяў, і слоў, каб сказаць...
Каб сказаць: “Я жадаю вам шчасця,
Светлых думак і добрых падзей,
Каб мінулі ліхія напасці,
Каб сустрэлі вы добрых людзей,
Каб дарылі і зведалі самі
Цеплыню шчырых, ветлівых слоў,
Каб заўсёды былі разам з намі
Памяць, вера, надзея, любоў!”

## У ХРАМЕ

Мой храм той, у якім гучыць
беларуская мова

Жыве наш Бог, жывуць і беларусы.
І гэта Ён нам выжыць дапамог.
Сышлі з Зямлі ятвягі, галы, прусы,
А мы трымаемся на ростанях дарог.

Таму і ў Храме сёння гэтак светла,
І мова наша чыстая гучыць.
Душа пяе, і погляд побач ветлы,
А значыць – беларусы будуць жыць!

## ІМПРЭЗА

Яшчэ гаманок між радоў “ Маякоўкі”,
На тварах людзей – след надзённых падзей.
Паэзіі Музы, паэтаў сяброўкі,
Вітаюць усмешкай чаканых гасцей.

Гучаць інтэрв’ю, бліскавіцы ад фота,
Струменіць у сэрцы святочны настрой.
Нарэшце пачулася першая нота –
Пачатак імпрэзы. Выходзіцць герой!

Герой як Спартак? Як Хрыстос? Ці як Юда?
Ліслівец і згоднік ці гулкі набат?
Ад Бога мастак або толькі прыблуда?
Дык хто ты, герой, чужаніца ці брат?

Ірвешся, як вецер праз пушчы на волю,
Ці больш даспадобы сугуччаў шрапнель?
А можа ты той, хто б’е праўдай да болю
І нават за праўду ідзе на дуэль?

Сапраўдны паэт болем праўды працяты,
Святло пазнаецца праз мукі і боль.
Радкі тут заўсёды, бы струны, напяты,
А кожнае слова – на раны, як соль.

## ДА 90-Х УГОДКАЎ КАСТРЫЧНІЦКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ

Гартаю старонкі я нашай гісторыі:
Вялікіх, і сумных, і радасных дзён.
На ўсю неабсяжнасць славянскай прасторы

Кастрычнік прынёс і святло, і праклён.

Святло палымнела надзеяй і марай
На новы, і вольны, і радасны час.
Адных наракалі буржуйскаю зграяй.
– Цямрэча і быдла, – гучала ў адказ.

І тысячы тысяч схавалі магілы.
Імперыі бляск таяў дымам гармат.
А ўсё ж на руінах распятай краіны
Паўстала дзяржава на ленінскі лад.

І стаўся міністрам матрос і араты,
Гісторыі земляў звялі ў небыццё,
А храмаў крыжы спілавалі на краты,
Ды іншы кірунак абрала жыццё.

Гартаю старонкі я нашай гісторыі,...
Вялікіх, і сумных, і радасных дзён.
На жаль, мы нашчадкі той самай прасторы,
Дзе з мараю побач узрос і праклён.

## ПЕРАМАГЛІ!... ЗАКОНЧАНА ВАЙНА

Перамаглі!.. Закончана вайна.
Паўсталі пашанотна абеліскі.
І словы, зразумелыя здаўна:
Радзіма, маці, родны кут, калыска,–
У мірныя вярнуліся дамы.
Вярнуліся і зноўку ажылі
Палі, лугі, зялёныя ўзлескі;
Там, дзе акопы чорныя былі,
Блакітам усміхнуліся пралескі,
Як сёння ўсміхаемся і мы.
Перамаглі!.. А значыць – будзем жыць.
І памятаць пакутныя дарогі,
І, як бацькі, Радзіму бараніць,
І, як бацькі, Зямлю сваю любіць,
І ведаць кошт Вялікай Перамогі.

## БЕЗ ВЕРЫ Ў СЭРЦЫ

Да 2000–годдзя Раства Хрыстова

У святочную ноч, ноч Твайго нараджэння
(Я і думаць не мог, што так скончыцца век),
Каб у храме Тваім, у святое імгненне,
Адбываўся звычайны, бязлітасны здзек.

Там стаялі яны, позірк іх быў схаваны,
Ад аховы сваёй, ад Цябе і людзей.
А за кожным – іх лёс, рокам злым напатканы,
І крывавы іх след, і чарнота іх дзей.

“З намі Бог!”– паўтаралася пафасна часам.
Толькі гэта клішэ не для сэрдцаў людскіх.
Ваш прыезд да святынь стаў не болей як фарсам,
Ўзнагароды дакорам ляглі на жывых.

Фарысеі ізноў ля багацця і славы,
Дык ці варта маўкліва ля ног іх стаяць?
Бо на кожным  крыжы ля залочанай крамы,
Гэтым разам сумленне імкнуцца распяць.

## ШТО ПАСЕЯЛІ, ЖНЁМ...

Залатая, прыгожая, мілая восень.
“Лета бабіна” ціха сыходзіць на клін.
І плывуць журавы праз блакітную просінь
Па- над кронамі жоўтых маўклівых асін.
А па небе бягуць сінявокія хмаркі,
Дрэвы сыплюць лістоту, бы неба дажджы,
І Ён бачыць, як людзі, збялеўшы ад сваркі,
Да біблейскай сваёй падыходзяць мяжы.
Кожны хоча казаць... Ды ніхто з нас не чуе.
(Запаветы Хрыстанам даўно не наказ).
Што пасеялі – жнём. А ці што паратуе?
І на што спадзявацца тут кожнаму з нас?

## “ЖЫВІЦЕ БАГАТА...”

У зале вялікай, высокай, як неба,
Чырвоныя крэслы радамі наўздоўж.
Прамовы і песні – усё як і трэба,
А я вось сумую. Сумую я ўсё ж.

А музыка звонам малінавым льецца.
Спявачка, як ружа, як сонечны май.
І зала вітае, і зала смяецца,
А я вось сумую. Спявай –не спявай.

Я чую прыгожыя рускія песні.
На сцэне яскравы любоўны раман.
А сэрца, як птушка, у раннім прадвесні
Сумуе, бо сцюжа, а песні – падман.

Ды вось загучала “Жывіце багата...” –
І сум адлятае адразу ж убок...
Тут родная мова – як родная хата!
Дык дзякуй за свята табе, мой браток.

## ЛЕДАХОД

Снег, як шрот і аблокі, як дым.
Вецер з захаду рвецца без меры.
Гэта цёплы, магутны Гольфстрым
Прад зімой дэманструе намеры.

Не схацеў ён, напэўна, глядзець
На Дзвіну, што ў лядовай няволі.
Пажадаў прыгажуню сагрэць
Ды здабыць для яе лепшай долі.

І нарэшце парушаны лёд,
Зварухнуліся сонныя крыгі,
І пайшоў па рацэ ледаход
Да Дзісны, Верхнядзвінска і Рыгі.

Гэта значыць, што крочыць вясна,

Што блакітам успыхнуць пралескі
І што будзе ізноў дапазна
Сонца лашчыць нас цёплай усмешкай.

Што ўсю ноч будуць пець салаўі
І што раніцай чыстай і светлай
Ля ракі, ды і ў кожным гаі,
Апранецца чаромха нявестай.

## ПАКІНУЎ ПОЛАЦК ЁН ДАЎНО...

Памяці Ю. Тарыча

Пакінуў Полацк ён даўно,
Ды тут жыве яго кіно.
Таму і сёння ён між нас,
Хоць і змяніўся век і час,
Прыйшлі камп’ютэр, інтэрнэт,
Звязаў мабільнік цэлы свет...
Усіх навацый не злічыць,
Здалося, можна б і забыць.
Але не знік кінамастак,
У кадры – геній і прастак.
І на экране ўсё жыццё
Святла і цемры пачуццё.
Тут добра бачны кожны крок,
Тут вучыць кожны свой урок.
І Юрый Тарыч, наш зямляк,
Тварыў і жыў не абы- як:
І рэжысёр, і сцэнарыст,
Акцёр, рамантык і артыст.
Куды б яго не кінуў лёс –
Імя сваё ён годна нёс,
Хоць зведаў арышт і Сібір
І ліхалеццеў чорных вір.
Але заўсёды працаваў,
Таму і бюст яму паўстаў.

ЛЯ ЗНАКА ЛІТАРЫ “Ў”

г.Полацк

Я прыходжу сюды,
Як да месца святога.
Тут не ззяюць крыжы,
Дык няма і благога.
Тут заўсёды святло,
Што ідзе ад жывога.
Тут для слова жытло,
Для свайго, не чужога!
Гэта родны куток,
Дзе прыгожыя людзі.
Тут паветра глыток
Поўніць радасцю грудзі.
Гэта тое, праз што
Мы выходзім у людзі.
А таму з нас ніхто
Шлях сюды не забудзе.

Я НІКОЛІ НЕ БЫЎ У ІРКУЦКУ…

Я ніколі не быў у Іркуцку,
Дык ці варта аб ім гаварыць?
Можа, лепей што- небудзь у Слуцку
Для натхнення і шчасця здабыць?
Толькі штосьці мяне застаўляе
Думаць, марыць і нават тварыць,
І сягоння амаль не здзіўляе,
Што Іркуцк у душы можа жыць.
Той Іркуцк, што на ўсходзе Сібіры —
Прыбайкальскі зімовы абшар,
Дзе мароз, як пудовыя гіры,
Наганяе румянец на твар.
Дзе нямала вайсковых паходаў,
І загубленых жыццяў людскіх,
Дзе налічана сотня народаў,
І жывуць беларусы між іх.
Беларусы, а значыць, радзіна,
І таму – адпаведны настрой!

Словы мовім мы з вамі адзіна,
Так, як брат размаўляе з сястрой.

Таварыству беларускай культуры
Іркуцка

Прызнаюся, не вельмі здзівіўся,
Што прыехаў Алег Рудакоў.
Толькі верыце, дужа натхніўся
Спеўным пошчыкам нашых сяброў.
Вось яны – прыбайкальскія цуды,
Немагчыма вачэй адарваць.
Ён прывёз іх для нашае згубы:
У палон ТБМ наш забраць.
І хоць супраць нічога не маю,
Толькі Крук Валянціне кажу,
(А дакладней – настойліва раю),
Не пускаць ТБМ за мяжу.
Усе пажэняцца. Страцяць валюту,
І тады іх, як вецер, шукай.
Можа лепей Алегу, ты ў лютым,
Тут сустрэчу ізноў прызначай.
І тады мы, магчыма, з’яднаем
ТБК з ТБМ у адно,
А праз еднасць і шчасце спазнаем,
І пра гэтае здымем кіно.

## ХВІЛІНКІ

Вашы рукі ляглі мне пяшчотна на плечы.
І сутонне наўкол сцеле цемру начы.
Жар у сэрцы маім, як вугольле ў печы,
Ад яго дзе схавацца, куды ж уцячы?

А хвілінкі ляцяць, бы імгненні, бы знічкі.
І ніхто іх не змог запаволіць, спыніць.
Пацалункі гараць, як згараюць сярнічкі,
Толькі вогнішча наша чамусьці дыміць.

Як жа зараз нам быць, і якое тут выйсце?
У адчаі чаму наваколле маўчыць?
Вам у вочы гляджу, а зялёнае лісце
Пра салодкія вусны, пра Вас шапаціць.

Ды дзяцінства прайшло, мы дарослыя людзі,
І адказы на ўсё трэба неяк шукаць...
Дровы ўсе дагараць, але помніцца будзе
Цеплыня тых хвілін, што як знічкі ляцяць.

## РАНІЦА

Чыстая, светлая, звонкая раніца –
Сонца і Лета на шчасце выбранніца.
З белым туманам, дуброваю роснаю,
З чыстым пракосам, травой меданоснаю.

З папараць-кветкай, купальскім настроем,
З ветрыкам свежым, азёрным настоем,
І спевам птушыным, між голля разлітым,
І клёнам ля хаты, што хмелем павіты.

І як бы да гэтага нам не жылося,
У дні адышоўшым усё засталося.
А гэтая раніца, як дапамога,
Як сіла на дзень, што сыходзіць ад Бога.

***

Ног не чую... Лячу
Я ў абдымкі прыдзвінскага лета.
Крылы строф залачу
Светлым промнем кахання паэта.

А насустрач – Яна!..
То чаромхай, то белай рабінай.
Гэта, мабыць, вясна
Апранулася летам-жанчынай...

## МІЛЫЯ СЭРЦУ ВОБРАЗЫ

Горад сціх на першых кроках ночы.
На бярозах зданню белай – сны.
Толькі я, зірнуўшы ім у вочы,
Крочу майскім берагам Дзвіны.

А ў нябёсах нехта патаемны
Выткаў ярка зорныя каўшы.
Родны кут...Так лёгка і прыемна
Чуйнасць абудзіў маёй душы.

Тут, у травах, звонкіх, меданосных,
Пах суніц дзіцём я пазнаваў.
Гэты луг, і бераг шматгалосны,
І сябе – адзіна адчуваў.

Горад спіць, цямрэча засціць вочы,
Льюць напевы гулка салаўі,
А чаромха вобразам дзявочым
Шэпча аб прыгожым на зямлі.

## ФАРБЫ ВОСЕНІ

Вось і лета сышло, крочыць весела восень,
У пурпуры каліны заможна стаяць,
І птушыныя плоймы праз хмарнасць і просінь
Развітальна на поўдзень далёкі ляцяць.

Кветкі, як ні глядзі, вабяць спеласцю фарбаў,
Пазалотай бярозы і клёны шумяць.
У лясах і дубравах, прыціхлых ад скарбаў,
Павуціны-цянёты на голлі вісяць.

На лугах каля рэк, на сцяжынках між сосен
Аксамітам бруснічным згарае трава.
І, магчыма, для добрых ёй з намі адносін
Восень водар садоў ля дарог разліла.

Мы вітаем цябе, наша мілая госця,
Цёплым матчыным словам ды школьным званком.
Нашы душы напоўні сваёй прыгажосцю
І надзеі ўначы запалі светляком…

## У ЗАХАПЛЕННІ ПАЧУЦЦЯЎ

Неба сцеле блакіт на ўсю шыр небасхілу,
І туман надае таямнічасць гаям.
Я не ведаю сам, што мяне акрыліла,
Каб, нарэшце, сказаць словы гэтыя Вам:

"Вашы вусны – ад сонейка светлага,
Вашы рукі – пяшчота духмяных лугоў".
І ад позірку яснага, ветлага
Ў захапленні стаю, не знаходзячы слоў.

А наўкола вясна, пахне хвоя на соснах,
Неабсяжны абшар нас удалеч заве.
Я сузор'і для Вас намалюю на вокнах,
Каб свяцілі Вам зоркі на яве і ў сне.

Бо пачуцці заўжды больш любога багацця.

І каб гэта адчуць, не патрэбна віно.
Трэба сэрца адкрыць і ў каханні прызнацца…
І набыць два квіткі  на сеанс у кіно.

## ХВІЛІНКІ ШЧАСЦЯ

Першы сум даўганогага лета
Між вясёлкавых колераў траў.
Мабыць, добрая гэта прыкмета,
Што світанак нас разам застаў.
Не сумуй пра імклівасць хвілінкі,
Час шчаслівы заўсёды такі.
Штосьці весела шэпчуць травінкі,
У салодкай дрымоце стагі.
А над намі – магутныя клёны,
Дзіўным звонам напоўнены луг.
І салоўка над рэчкай натхнёна
Лье напевы кахання наўкруг.
Не сумуй, усё гэта не казка.
І яно нам прысніцца не раз.
Ночы скінута чорная маска:
Ранак сыпле расою на нас.

## КВЕТКА ХРЫЗАНТЭМЫ

Т. Саковіч

Ах, якая кветка хрызантэмы,
Хоць мароз і белы снег ляжыць.
І жанчына, як сугучнасць тэмы,
За сталом шчаслівая сядзіць.

Пачуццё, любоў – жыцця асновы.
Невядома, як без іх  і жыць.
Я і ты – пакуль яшчэ паловы.
Ты і я… Знаць, дадзена любіць.

І адразу крылы вырастаюць,

І агонь пульсуе па крыві,
І, бясспрэчна, кветкі ажываюць
Цеплынёй падоранай любві.

Вось чаму і хрызантэма гэта,
І жанчына, побач што сядзіць,
І квітнеюць, нібы звонку лета,
Хоць мароз і белы снег ляжыць.

## ТЫ СА МНОЙ БЫЛА…

Ты са мной была
Кубачкам віна –
Мне каханнем сэрца напаўняла.
А цяпер – журба
Ценем ля акна,
Дзе ты кветкай летняю стаяла.

Зорачкі ўгары,
Травы і бары,
Сонейка і вецер нас віталі.
Ночы з той пары,
Летняй той пары,
Нечакана любымі мне сталі.

Ды такі наш свет –
У руках білет…
Час шчаслівы з намі развітаўся.
Кветачак букет,
Як і ў сэрцы след,
Успамінам дзіўным захаваўся.

Шмат зямных дарог.
Толькі твой парог
Гэтыя дарогі абмінаюць.
Ды між іх пралёг
Следам нашых ног
Шлях сустрэч, што лёсам называюць.

## МАЗАІКА ЛЕТА

Расхінуліся таямніцы
Лета дзіўнага напаказ:
Ранкам сціплыя медуніцы
Запрасілі шмялёў на вальс.

Надухмянілі кветкі ліпы,
Упрыгожыліся фатой,
І пад звоны крылатай світы
Сустракаюць вясёлы рой.

Перасуды вядуць румянкі,
Даўганогія, у лапцях.
Ветрык шэпча ім абяцанкі
На світанку быць у гасцях.

Назіраю я дзіва гэта
Ды сумую даўно табой.
І вось ты, як багіня Лета,
Мне махнула здаля рукой.

## ПРАЛЕСКІ

Разлілася чаромхаю белай
Прыгажуня-вясна ля дарог,
Пацягнула травіцаю прэлай,
Прарастае пад сонцам мурог.

Ажываюць пагоркі і ўзлескі,
Толькі першыя кветкі вясны
У самоце пяшчотнай, пралескі,
Адыходзяць у мройныя сны.

Дзякуй вам за блакіт першародны,
За святочнасць у нетрах душы.
Вы – прыродны мой храм прыдарожны,
Храм, дзе людзі не ставяць крыжы.

## ЯНА

Закаханы стаю я ў здзіўленні:
Нават кругам ідзе галава.
Пра чароўныя гэтыя цуды-імгненні
Шэптам штосьці прарочыць трава.

А насупраць – прыгожая зорка,
Ды, вядома, – чужая яна.
І таму, хоць ад хвойкі зялёнай, іголка
Ёй дарункам ляціць да акна.

Ах, каляднае светлае шчасце!
Узгадала прароцтва зіма:
– Калі ласка, прабачце, мне зараз прабачце,
Я даўно…Я кахаю сама!

Светлатварае сонца смяецца,
Зелянее ля елкі сасна.
Можа, зараз я сплю, і мне толькі здаецца,
Што сказала ўсё гэта яна.

## У КУПАЛЬСКУЮ НОЧ

Бог кахання засмяяўся весялей.
Нашы вусны набліжаюцца смялей.
У купальскай цудадзейнай, у начы,
Дык хутчэй жа пацалуй! Ну, саграшы!

А дуброва, як вясёлка, ад падзей.
Колькі розных закаханых тут людзей!
(Кветка-папараць для кожнага цвіце) –
Дык ачысцімся агнём ды і ў вадзе!

Ногі самі да вады ідуць-бягуць,
Рукі хочуць дагала нас распрануць.
Нават страшна, што нарэшце мы і ўдвох,
Толькі хутка пераможаны спалох!

Бераг возера. Мы разам ля вады.

Свой пякучы пацалунак дорыш ты.
І, шчаслівыя, мы весела плывем –
Да наступнага Купалля дажывем.

А па-іншаму не можа, верце, быць.
Без кахання і Купалля не пражыць.
Поўняць неба паланіцы ад агнёў...
Гэта шчасце. І не трэба болей слоў!

## Я ВЕДАЮ

Я ведаю. І добра ўсё я  ведаю:
Прытворства дым лёг коўдраю між траў.
Стаяла ты хваінкай зледзянелаю,
Іголкі слоў кідаючы мне ў твар.

Я ведаю. Напэўна, нешта ведаю:
Праз шоўк валос і вуснаў спелых мёд.
Ды што з таго, калі адзін я снедаю,
А восень шле пад ногі першы лёд?

Я ведаю. А можа і не ведаю,
Чаму праходжу ля твайго акна,
Чаму даўно з чупрынаю ссівелаю,
А ты дамоў вяртаешся адна?

Я ведаю. Ўсё выверана лёсамі:
Шчаслівых дзён не выкрадзе зіма.
Былі яны, як лета, шматгалосымі,
Дзе птушкаю спявала ты сама.

## НАТХНЕННЕ ДЛЯ ПАЭТА

– Ты вясна! – ляціць па-над узлескам,
Множыць гукі рэха шмат разоў,
Нават вочкі колеру пралескі
Залатых Лаўрынаўскіх бароў...

– Ты мая! – гучыць радком санета...

Вецер ловіць срэбны водгук слоў.
Пахам траў і гулам звонкім лета
Схіл маіх напоўніла гадоў.

– Ты мой сон! – плыве праз ночку гэту...
Месяц-дружа кружыць між дубкоў.
На маю лірычную планету
Пал жывых ты кінула радкоў.

– Я кахаю! – поўніць высь Сусвету...
Шчырасць слоў –расчуліць і Багінь.
Хто нясе натхненне для паэта,
Дакранецца сонечных вышынь!

## ЛІРЫКА

Ноч-дзяўчына крочыць у змярканні
Па ўскрайку хісткай цішыні.
Месяц-лірык, нібы на спатканні,
Музу будзіць промнем з вышыні.

А яна лірычныя радочкі
Дорыць шчодра, дзе іх не стае.
У палон да гэтай музы-ночкі,
І пачуцці трапілі мае?

І стаю, зацішыўшы дыханне.
Спевы льюць шалёна салаўі,
Нібы хочуць першае каханне
Зноў вярнуць у сённяшнія дні?

Што шукаць, у чым і дзе прычына?
Спевы, месяц, лірыка начэй?
Ці ж у тым, што кветачка-жанчына
Ззяе побач зорачкі ярчэй.

***

Неба край ірдзяны чырваніцца,
Вечар змрокам хутае масты.
Ноч у мяккай драпавай спадніцы
Шчодра сцеле цемру на кусты.
Месяц поўняй выплыў па-над вёскай,
Промнем лёг на сцежкі і шляхі.
Ветрык сціплы шэпчацца з бярозкай
І пад край хаваецца страхі.
Дзень сышоў. Гараць яскрава зоркі.
У душу прыходзіць супакой.
Нават мышкі дрэмлюць каля норкі,
І трава прыціхла пад расой.
Свет заснуў, каб раннем прабудзіцца,
Поўным сіл, надзеяў і святла,
Каб у сне любоўю атуліцца,
Што жыццё пад сонейкам дала.

***

Восень сыпле лістотай прыгожа
Сум ад клёнаў, бяроз ды рабін…
Гэта подых узвышаны, Божы,
Гэта веліч імклівых хвілін.

І таму, калі стомлены болем
Ад пагарды ці крыўды людской,
Крочу чыстым я лесам і полем,
Каб адчуць гэты подых душой.

І тады, нібы нешта святое,
Цішыць боль, робіць далі святлей,
А пад ногі лісцё залатое
Восень-доктарка сыпле смялей.

## ВУЛІЦА КРЫНІЧНАЯ

Вуліца Крынічная, шумная, сталічная
Ў час даўно мінулы ды ў забыты век.
Сёння хаатычная, хоць і сімпатычная,
І жыве тут добры, мілы чалавек.
І да гэтай вуліцы даўні Полацк туліцца,
І сабор Сафійскі па-над ёй стаіць.
А на золку чуецца, часам добра чуецца,
Як на конях хуткіх Чарадзей імчыць.

Прыпеў:
Вулкаю прайдуся, радасна здзіўлюся
Звону калакольнаму, што плыве з вякоў.
Як заўжды спынюся, моўчкі памалюся,
Каб маю адчула вулачка любоў.

Тут Рагнеды сцежачкі, што схавалі бедачкі
У пясок прыдзвінскі ды ў рачной вадзе.
І таму, як свечачка, ёй жывая кветачка
Побач кожнай хатачкі, што ні год расце.
Тут прыгожа марыцца,і так можа здарыцца:
У вякі забытыя памяць верне нас.
Вось тады і станецца, што і вулка спраміцца
І праспектам светлым ляжа ў новы час.

***

Што казаць!? Пачуццяў вір імклівы,
Словы недарэчліва гучаць –
Побач Вы, і я такі шчаслівы,
Што хачу ад радасці крычаць.
Толькі Вы!.. Вы стрымана маўчыце,
Як сама вандроўніца Дзвіна.
Хай і так. Нічога не кажыце,
Ўсё адно і Ваша ёсць віна.
А яна ж у тым, што Вы жанчына,
Што наўкола сонца і трава.
Ды, найперш, галоўная прычына,
Што п’яніцца Вамі галава.

Знаць сцэнарый гэтага спаткання
Лёс саткаў праменьчыкам святла,
Дзе не трэба словы для прызнання,
Дзе жанчына ёсць, а не была.

## МАЯ ВУЛІЦА

Хто не верыць, паверце! На світанні штодня,
Болей сонечнай вуліцы у Прыдзвінні няма!
Тут чырвоныя дахі, пад аблокі дамы,
Тут фантаны і паркі, ну, і мы, жыхары.

Прыпеў:
Дорыць вуліцы сонца свае промні святла,
І вясна морам кветкі для яе разліла.
Ёй – прыветная постаць беланогіх бяроз.
Ёй – вясёлыя жарты, часам, нават, да слёз.

Крочыць вуліцай гэтай шмат людзей нездарма:
Тут у золаце восень, тут у срэбры зіма,
Тут заўсёды сустрэнеш і сяброў, і гасцей.
Тут “Паўлінка”,”Пралеска” за “Дзвіной” – “Чарадзей”.

Ці я крочу на працу, ці стаю ля акна,
То галінкай,то кветкай “падміргне” мне яна.
І таму нашу вуліцу я люблю  сапраўды.
Сумна мне або весела – я прыходжу сюды.

## НАВАПОЛАЦК, ТЫ НАЙЛЕПШЫ!

Наваполацк, ты найлепшы!
Для мяне ты самы першы,
Самы першы з гарадоў.
Тут прыдзвінскае світанне,
Тут я крочу на спатканне,
Тут падчас само каханне
Сыпле клёкатам буслоў.

Прыпеў:
Будаваў цябе мой дзед.

Я адсюль пайшоў у свет.
Наваполацк – мой горад!
Наваполацк – мой горад!
Тут і мой захаваецца след.

І таму ты самы лепшы!
Для цябе пішу я вершы,
Вершы толькі пра любоў.
Бо ты сэрцу вельмі блізкі,
Бо цябе я чуў з калыскі,
Бо імя тваё, як кніжкі,
Я чытаю шмат разоў.

Наваполацк, ты найлепшы!
І не грэх, што маладзейшы,
Маладзейшы за братоў.
Тут затое ёсць прызнанне,
Ёсць і радасць, і спатканне,
І падчас само каханне
Сыпле клёкатам буслоў.

## ВЕЧАР У РЭСТАРАНЕ

Ну, што яшчэ трэба? Віно, рэстаран,
Прыгожыя вусны і ногі.
А хочацца мовіць: “Звычайны падман,
Ад суму сышліся дарогі”.

Ды толькі вось проза пасуе не нам,
І сцелюцца рыфмай прыгоды,
А рукі пяшчотаю зводзяць у зман,
Шукаючы сцежку да згоды.

І скрадзены сум, ды і час, як у сне,
У свята расчынены дзверы.
За гэты крадзёж я і ўдзячны табе
Радком цеплыні на паперы.

## “МУР” ДЫ “МЯЎ”!

Мы вясёлыя “ребята”,
Да дзяўчат прыйшлі на свята,
А там круцяцца каты,
Задзіраючы хвасты.

Прыпеў:
Толькі чуем “мур” ды “мяў”...
Ах, каб вас барбос дагнаў!
Вы б забыліся тады
Сцежку гэтую сюды.

А дзяўчаты-прыгажулі
Ладзяць з коцікамі гулі,
Бо малодшыя браты
Без калючай барады.

Каб граху не адбылося,
Гнаць катоў адтуль прыйшлося.
Хай іх кошкі сустракаюць,
Спінку дужкай выгінаюць.

Толькі чуем “мур” ды “мяў”...
Ды няма да іх нам спраў,
Бо забыліся каты
Сцежку гэтую сюды.

***

Я светлы, чысты бачу дом,
А зверху шыльда – “Эканом”.
Тут кава, пернікі, гарбата,
І нават будні тут, як свята.
Бо справа робіцца з душой.
Тут свет увесь перад табой!
І тут прыгожыя дзяўчаты,
Хоць сёння едзь да іх у сваты.
Таму і келіхі з віном
Мы п’ём за крамы “Эканом”.

Няхай жа Богі крывічоў
Дадуць ім поспех і любоў.

## ЗІМА

Беларусь замяло снегам белым, пушыстым.
Хараство на галінах бяроз ды кустоў.
І на полі раўнінным, прасторным і чыстым,
Учыніла зіма царства белых снягоў.

У блакіце нябёс залаціцца праменне.
Цішыня між хваін, прыдарожных лясоў.
Што за ўсе даражэй? Ці не гэта імгненне:
Беларусь прыгажуняю бачыць ізноў?

Можа, сам снегавей дзесьці там памыліўся,
Сыпануўшы нам шчодра багацце зімы?
А мо гэта хто з нас ад душы памаліўся,
Каб жыла Беларусь, ну, а значыць, і мы?

## ЗАВІРУХА

Завіруха сягоння ад ранку
Забаўляецца, ладзіць гулянку.
Упрыгожыла вёску беласцю
З заліхвацка-мастацкай смеласцю.
На кусты, на тыны і на дахі
Снегавыя надзела папахі,
Белатканыя вяжа хусціны
Ды кідае на лапы яліны.
На азёры, лугі і балоты
Ускладае пярыны-сумёты.
Зруйнавала шляхі і сцяжыны –
Не прайсці, не праехаць машынам.
Не баіцца ніякай кары.
Сыпле снег на вусы і твары,
Адчыніла ля хаты браму,
Заляцела затым у краму –
Вось такая яна шаляніца.

Толькі ўсё ж пачала таміцца.
Не выключана, што і ўпілася
І таму канчаткова здалася.
І цяпер, знаць, у ёй прычына,
Што паўнеба агнём ахапіла,
Ды фарбуе мароз нос і шчокі,
І цішу будзяць трэскам сарокі.

## ГАСНУЦЬ ЗОРКІ...

Гаснуць зоркі, світальная раніца,
Лёг марозец арнатам на шкло.
І над лесам, дзе ночка хаваецца,
Сонца чырвань наўсцяж разліло.
Разліло і пайшло – не спыняецца –
У блакітную высь на свой шлях –
Гэта значыць,што дзень пачынаецца
У маіх панаддзвінскіх краях.

Прыпеў:
А за вокнамі хаты
Полацк дрэмле прыбраты,
І туман над Дзвіною радзей.
Адчыняюцца брамы,
Нікнуць фарбы рэкламы,
І на вуліцах мноства людзей.

Наш аўтобус не надта спяшаецца –
На шафёра, знаць, нешта найшло:
Задуменны сядзіць, усміхаецца
І глядзіць на жанчыну праз шкло.
Штосьці дзіўнае тут адбываецца,
Бо такога раней не было:
Можа, гэта вясна пачынаецца,
А мо ў сэрца каханне прыйшло?..

## КІНО

І нядаўна, і даўно
Нарадзілася кіно.
Чорна-белае, нямое,
Ды вясёлае, жывое.
І пайшло яно ў наш свет,
Пакідаючы свой след,
І вялікае здзіўленне,
І прыгоды, і натхненне,
І каханне, і любоў,
І дзівосы розных моў.

Прыпеў:
Мне б квіточак у кіно,
Там, дзе добрае яно,
Дзе жывуць ваўкі, вавёркі,
Чары, горы ды і ўзгоркі,
Дзе бывае смех і грэх,
І какосавы арэх.

Гасне яркае святло,
Рвецца промнік цераз шкло.
І вось першае спатканне,
І прыгожае прызнанне,
Акіяны і рака,
А яшчэ – твая рука,
А яшчэ твае дыханне,
І здзіўленне, і маўчанне...
Знаць, прычына ёсць даўно:
Завітаць нам у кіно.

## КАРАЛЕВА

Ява, сон? Сумнеў ад часу Евы.
А ці можа гэта нават быць?
Вось і я насупраць каралевы,
А яна загадкава маўчыць.

Побач ветрык цёплы прабягае,

Над Дзвіною хмарак лёгкі дым,
І прыемна сэрца замірае,
Пачуццём чаруючы сваім.

–Ваша светласць, – шэптам прамаўляю
І раблю наперад першы крок. –
– Што са мной: жыву ці паміраю?
Гэта Вы? Ці жарт прыдумаў цмок?

А яна свой погляд не хавае,
Белую мне ручку падае.
Потым, усміхнуўшыся, знікае
Дый у вершы тут жа паўстае.

***

З бальшака, на дарогу да вёскі –
Шляху іншага і не шукай!
Тут дзяцінства твайго адгалоскі
І юнацтва майго ветлы край.

І таму, што б пра нас не казалі,
Ўсё адно нам з табой не мінуць
Тых мясцін, дзе мы разам кахалі,
І дзе лёс нас сумеў размінуць.

З бальшака на дарогу да вёскі
Між пагоркаў, лугоў і ляскоў,
Дзе жывуць і цяпер адгалоскі
І тваіх, і маіх галасоў.

***

Адпачынак. Нарэшце. Свята.
Цэлы тыдзень, як вольны птах.
І ад раніцы поўніць хату
Лета цёплага спелы пах.
Ну скажыце, што болей трэба?
Ну навошта далёкі рай?
Ад спякоты сінее неба,
Прахалодаю вабіць гай.
Сонца шчодра лагодзіць цела,
Выцінае салёны пот,
І азёрная хваля смела
Пазаморску таўчэ жывот.
Так што сервіс, прабачце, людскі.
І ў кішэні хрусціць, як бель,
З нацюрморта, што вывеў Хруцкі.
Беларускі жывы рубель.

## ВЕЧАР У НАДДЗВІННІ

Добра, што нагода ёсць сабрацца
І гадзінку разам пасядзець,
Памаўчаць, паслухаць, пасмяяцца,
І, магчыма, штосьці зразумець.
Вось пабачце: сшытачак вучнёўскі,
Хтось паперай белаю шуршыць,
І, нарэшце, вершык вераснёўскі
Хоча нам Загурская ўручыць.
А далей яшчэ не менш цікава:
Між паэтаў рыфмы, як ручай.
Добрая і знакавая з'ява –
Значыць будзе і духмяны чай.
Толькі вечар іншым стаў адметны,
Нездарма тут кветачак букет:
Ў гэты дзень, звычайны, непрыкметны,
Нарадзіўся будучы паэт.

***

Ах, Юля, Юля, Юля!
Дзе рыфму адшукаць,
Каб з горкаю цыбуляй
Цябе не параўнаць?
Хутчэй ты, як бярозка,
Што з ветрам шапаціць,
І нават твая слёзка,
Бы зорачка трымціць.

Ах, Юля, Юля, Юлька!
Давай хутчэй шукаць,
Бо прыйдзецца з цыбулькай
Цябе мне параўнаць.
А, можа, ты сцяжынка
Ці нават ручаёк?
Ды чую: “ Я сняжынка,
Злаві мяне, дзядок!”.

## ПРЫЗНАННЕ

Я нікому не кажу,
Ну чаму сюды хаджу?
І адкуль заўжды настрой,
І што робіцца са мной?
Толькі дзіва тут няма –
Я вяселая сама,
І гуляю, дзе хачу,
І спяваю, і маўчу.
Ды маленькі ёсць сакрэт:
Мне спаткаўся тут паэт,
І цяпер ён сябра мой,
А яшчэ ён хлопчык той,
Што старанна і даўно
Круціць добрае кіно.
Вось таму сюды хаджу
І штодзень кіно гляджу.
Не хачу другіх забаў,
Не шукаю іншых спраў!

Да “Радзімы” нацянькі,
Дзе рэкламы аганькі,
Дзе афіш калейдаскоп
І вясёлы фільмаскоп.
І таму заўжды са мной
Светлы, радужны настрой

## ДАША

Глафіры, Лены, Машы –
Дзяўчаты, што казаць!
Ды толькі вось ад Дашы
Вачэй не адарваць.

Румянец лёг на шчочкі,
Смяшынак не злічыць.
Мігнуць Дашуткі вочкі –
І сэрца затрымціць.

Ах, Даша, Даша, Даша!
Уліп, як трэба быць…
Без воч бульбашкі нашай
Цяпер і не пражыць!

***

Гэты свет тады прыгожы,
Як у ім жыве любоў,
І як кожны кінуць зможа
Горстку светлых, добрых слоў.

## ДУБНЯКІ

Дубнякі. Дубнякі. Жменька хат на белым свеце.
Гэта вы! Гэта вы! Мой куточак на планеце.
Прыхаваліся вы па-над возерам з дубровай.
А ў гаі салаўі вабяць песеннаю мовай.

Дубнякі. Дубнякі. Гэткі мне дарунак лёсу.
Як шкада! Як шкада! Час парушыў сцены з цёсу.
Тым не менш, што казаць? Вас забылі без прычыны,
Бо жывуць, тут жывуць па суседству тры жанчыны.

Дубнякі. Дубнякі. Я вас сэрцам успрымаю.
Сапраўды! Сапраўды! Толькі працы тут без краю.
І таму над страхой хай клякоча бусел звонка,
Каб дзяцьмі прырасла наша мілая старонка.

## КРОЧЫЦЬ КАЦЯ Ў САДОК

У дзіцячым у садочку
Дзеткам два і больш гадочкі.
А вось Каці – паўтара,
Ды прыспела ёй пара
З мамай крочыць у садок,
У дзіцячы гарадок.
Там утульна і прыгожа
І, канешне, Каця зможа
І гуляць, і працаваць,
І паесці, і паспаць…
Бо глядзіце: колькі цацак?
Вось, напрыклад, жоўты мячык,
Коцік, тыгр, мяккі мішка,

Слон, сабачка і мартышка.
Потым час ёй трэба мець
Лялькы баінькі прапець.
І Кацюша шпарка крочыць,
Толькі слёзка шчочку мочыць,
Бо цікава з мамай быць,
З мамай лёгка гаварыць:
Пра дзівосы ўсе, што ў свеце,
Аб зіме, вясне і леце,
Як завуць бабулю, дзеда,
Папрасіць акрайчык хлеба,
Пагуляць уздоўж Дзвіны,
Дзе касцёльныя званы
Палачанкі юнай лёс
Уплялі ў блакіт нябёс…

***

У жанчыны ёсць тры прычыны
Гэты дзень цэлы год чакаць:
Так, па першай, усе мужчыны
Будуць Вам пра любоў казаць.
Па другой, завітаюць дзеці
Мамку радасна павітаць.
І, нарэшце, усе на свеце
Разбягуцца і лягуць спаць.
Вось тады і надыдзе свята,
Вам букет свой падорыць лёс,
Дзе і руж, і шыпоў багата,
Тых, што Вам ён штодзённа нёс.

***

Вось і верасень прыйшоў,
Бусел хлопчыка знайшоў.
І ў краіне Беларусь
Нарадзіўся наш Кастусь.
Хлопец спрытны, як відаць,
Не схацеў і дня чакаць.

***

Зноў у вёску! Я еду дахаты,
Да сваіх паўзабытых вуглоў.
Там заўсёды гучала багата
Добрых, шчырых і ветлівых слоў.

Зноў іду лугавінкай праз поле,
Срэбны ранак зімовага дня,
А насустрач нясе ў прыполе
Цётка Вольга, бы шчасце, ягня.

Зноў дымок заструменіў над дахам.
Скварак свежых даносіцца пах.
Я з сябрамі, катом ды сабакам,
Ля бліноў, што даўно на сталах.

А ў печы смалістыя дровы
Пад вясёлым салютам агнёў.
І вітае праз шыбы і сховы
Сонца госця ракой прамянёў.

## ВЕЧАР ЖНІВЕНЬСКІ

Н.В.Цывісу

Вечар жнівеньскі белым туманам
Лёг на возера, вёску, раллю.
Цемра дзіўным, гарэзлівым зманам
Моўчкі сцелецца на зямлю.

Неба цёмнае там, па-над хмаркамі,
Ладзіць зоркі сабе да касы.
Месяц жвавы ружовымі шклянкамі
Важыць срэбра халоднай расы.

На пагорку, дзе жоўтыя травы
Сеюць сум па мінулай пары,
Павукі дзеля жорсткай забавы
Вяжуць сеткі і ладзяць піры.

Качкі, нібы іголкі-шаршаткі,
Шыюць лётам сабе саваны.
Мы вяртаемся з вудай да хаткі,
Прамачыўшы да ніткі штаны.

# ТОЛЬКІ ТРЭБА
# БОЛЕЙ ДАБРЫНІ



## КАЖАШ, НАС, ЛЮДЗЕЙ, ТЫ РАЗЛЮБІЛА...

Кажаш, нас, людзей, ты разлюбіла,
Што за жорсткасць нельга нас любіць,
І што сёння грошай не хапіла,
Каб сяброў галодных накарміць.
Ды не тых, што часам цягнуць чарку–
Чарку любіць п'яніца, лайдак–
А сяброў, што побач з намі змалку:
І катоў, і кошак, і сабак.
А яны ля крамаў, на прыпынках,
Дзе, магчыма, крапля цеплыні,
І дзе нехта хлебную скарынку
Кіне зрэдку ім па дабрыні.
А пашчасціць – мільгане і скварка,
Іншы раз і сподак малака –
І жыве прыгожая аўчарка,
І гульнёю цешымся катка.
І ад гэтага становіцца прыемна,
Сэрца поўнае жыццёвай цеплыні.
Значыцца, у свеце ўсё ўзаемна –
Толькі трэба болей дабрыні.

## МІЛАЯ, А СЭРЦА ХІБА ЗМЕНІШ...?

Мілая, а сэрца хіба зменіш...?
Жорсткае, магчыма, менш баліць?
Ды куды ж ты роднае падзенеш?
А яно, як сонейка, гарыць.
І гарыць, і грэе, і згарае,
І з яго сыходзіць цеплыня,
Цеплыня, з якой і прырастае
Чалавечая любоў і дабрыня.
А вось іх у свеце не хапае
Нават больш, чым нафты і вады.
А таму і сэрца замірае,
І таму спакутвалася ты.

## НАВАГОДНЯЯ ПРЫГАЖУНЯ

У лесе нарадзілася –
Вачэй не адарваць.
Таму яна здзівілася:
Чаму прыйшлі ссякаць?
А людзі ўсё ўсміхаюцца:
– Аб чым размове быць?
Ды пільна ж углядаюцца,
Мяркуюць, як забіць?
Каб лапы не зламаліся,
Як тросам удавіць?
І нават не збіраюцца
Аб іншым гаварыць.
І вось гудзе- працуе
Натужана піла.
І з жахам елка чуе:
– Прыгожая была.

Як заўсёды, добрая ўсмешка,
Як заўсёды, з музамі на "ты,"
Для паэта гэта тая сцежка,
На якой губляюцца гады!

ВУСЫ

Майму літаратурнаму настаўніку

"Чаму ў Юрася вялікія вусы,
Нібы жытнёвыя ў восень каласы,
Нібы шляхі, дарогі або сцежкі,
А, мо, сцябліны агуркоў ці колы дзежкі?"–
Так запыталася адна мая суседка,
Калі Юрась прыехаў адпачыць улетку.
І я, падумаўшы, бабулі адказаў:
"Юрась у свеце шмат чаго спазнаў.
Яго вусы', як сосен карані,
Бо іх лагодзіць сонца з вышыні.
І, сапраўды, яны, як Плісы сцежкі,
І ён вясёлыя хавае там усмешкі".
Ну, а суседка з жартам дадала:
"Каб крыху маладзейшая была,
Дык кожны ранак гэтыя вусы'
Я б песціла, як сонца – каласы".

***

Г. Худніцкай

Я прыйшоў у сусвет натхнення,
Дзе між восеньскіх фарбаў дня
Не хаваю свайго здзіўлення
І чароўнасці пачуцця.
На тканіне, нібы вясёлка, –
Кожны дзіўна-прыгожы твор.
Што ні колер – то лекар-зёлка
Ці прасветлены загавор.
Тут, бясспрэчна, рука жанчыны
І лірычны яе пагляд.
Кожны штрых пад рукой Галіны
Лёг на Пушкінскі далягляд.

## РАЗБУДЖАНЫЯ СТРУНЫ

Л.Фёдаравай

Першы раз я так шчыра здзівіўся:
Час спыніўся між Вамі і мной.
Я, шчаслівы, яму пакланіўся,
А ён весела дзынкнуў струной.

Толькі дзынкнуў ён гэтак умела,
Што між нотамі ля, мі, фа, соль
Я адчуў, як прыгожа і смела,
Заспявалі дыез і бемоль.

Я убачыў і месячык жвавы,
І зары залаты завіток,
І, бялёсым туманам засланы,
Наш Прыдзвінскі альховы куток.

Я заўважыў, што нават увосень,
Калі золатам сыпле з рабін,
Можна бачыць пяшчоту і просінь
У вачах нашых мілых жанчын.

Зразумеў я, што звонкае лета
Прыйдзе нават зімой, як сюрпрыз,
Калі лёсу захочацца гэта,
Бо і лёс, як жаночы капрыз.

Першы раз я так шчыра здзівіўся:
Час спыніўся між Вамі і мной.
Я, шчаслівы, яму пакланіўся,
А Вы струны кранулі рукой.

## ШЧАСЛІВАЯ СУСТРЭЧА

Г. Худніцкай

Бывае, хоць зрэдку, ды шчасціць,
І сёння якраз гэткі час,
Бо нават марозам не засціць
Усмешку Галінкі для нас.

Мы бачым, як чыстай крынічкай
Мастацтва бруіць ручаёк.

Заўсёды ля Галі Худніцкай
Графітны шуршыць вугалёк.

Шуршыць ён па белай паперы,
Кладзецца на шоўк ці батыст.
З блакнота ж у меншым памеры
Глядзіць на мяне Феактыст.

А побач – валошкі па жыце,
І высі блакіт разлілі.
І чуецца : «Людзі, любіце
Усё, што жыве на Зямлі!

Любіце, і будзе прыгожым,
І светлым, і добрым наш дзень!
Мы шчасце праз гэта памножым,
А шчасце ёсць Божы прамень».

Малюнкі – працяг нашай мовы:
За фарбаю свет паўстае,
І дзень па - сапраўднаму новы
У сэрцы маім настае.

Бывае, хоць зрэдку, ды шчасціць,
І сёння якраз гэткі час,
Бо сонца марозам не засціць,
І Вы – сёння сонца для нас.

## ШЧАСЦЯ ТАБЕ!

Шчасця табе, Талкачова Тамара!
Добрага плёну на роднай зямлі.
Самая смелая, светлая мара
Узыйдзе хай рунню на мяккай раллі.

Вальсы, і песні, і вершы, што зложыш,
Будуць у сэрцах будзіць дабрыню.
Толькі ідзі, не спыняйся, ты зможаш
Людзям данесці сваю цеплыню.

Хай на зямлі нашай толькі прадвесне.
Мова твая – гэта звонкі ручай.
Прыйдзе вясна – Беларусь уваскрэсне,
Толькі далей і пішы, і спявай.

## ПА –ЗА КРУГАМ

В.Сакалоўскай

Я доўга чытаў Вашы вершы прыгожыя
У зорную ноч, ля агню…
І што б ні казалі, а іскаркі Божыя
Трапляюць падчас на Зямлю.

Хто выйшаў за круг, той на сцежцы да вечнасці.
Ён ветра і птушак вальней,
А шчырасцю слова мяжу чалавечнасці
Пашырыць у душах людзей,

Бо слова – жыццё і палёт да сусветнага.
Паэту не трэба крыла:
На тых, хто імкнецца да чыстага, светлага,
Святая сыходзіць хвала.

І хоць мы сягоння чужыя і розныя
( Прароцтвы прыходзяць у свет),
Прыгожыя вершы праз далеч марозную
Азначаць да лепшага след.

***

Б.Д. Грынёву

З далёкіх, ды ўсё ж не заморскіх, краёў,
Адтуль, дзе, як сонца, сланечнік,
Прыехаў у наш Наваполацк Грынёў –
Сапраўдны наш брат і паплечнік.

Прыехаў і песняй зямлю прывітаў,
І ёй у любові прызнаўся.
І белыя ногі бяроз цалаваў,
Шчаслівы, да іх прытуляўся.

І лепшага месца далей не шукаў,
Бо край палюбіў сінявокі.
Пайшоў па зямлі, што сваёю прызнаў,
Дабром адмяраючы крокі.

Нямала зрабіў: кніжку з вершамі склаў,
Прафесарам стаў знакамітым.
І шчасце, напэўна, таму напаткаў,
Што стаў ад бацькоў працавітым.

Таму, хай падоўжыцца праца твая,
Хай пішуцца добрыя вершы,
Хай Сальніца чуе свайго салаўя,
Бо стаўся між нашых ён першым.

***

І сонца, і неба, блакіту раздолле,
Пяшчота сінечай пралесак глядзіць.
І песня, як вецер, як жытняе поле,
Як светлая мара, лунае – ляціць.

Ляціць, і не дзіва. Тут Ніна Цюшкова...
І голас сягнуў аж у высі нябёс.
А потым з любоўю ён кожнае слова
Каштоўным дарункам да сэрца данёс.

***

В.К.

Ты, бясспрэчна, больш за ўсіх прыгожая!
Нібы горстка беларускіх слоў.
Бо ў свет і воляю, знаць, божаю,
Ты нясеш надзею і любоў.
Мілая, канешне, нам ты мілая!
Нам усім, хто з болем у грудзях
Бачыць, як чужынка ганарлівая
Душыць нашу мову на вачах.
Што рабіць, калі зусім стамляешся?
Ты пытанняў нам не задаеш.
А ідзеш наперад і змагаешся,
Бо з павагай да сябе жывеш.
І таму радочкі вершаваныя

Будуць, як ніколі, да пары.
Для цябе тут кветкі прыхаваныя,
Пашукай, а знойдзеш – дык збяры.

## “БЯГУЦЬ ГАДЫ...”

В.Атрахімовічу

Бягуць гады, спяшаюцца, на дзіва.
Нібы – міраж, ці, нават, толькі сон.
І мо таму з табою мы цярпліва
Жыццю “кідаем” вершы наўздагон.

Ну, а калі пашчасціць ухапіцца
Хоць на імгненне за яго крыло,
То і за гэта трэба пакланіцца,
Бо побач добрае і светлае было.

Бягуць гады, і так было спрадвеку.
Міраж ці сон – дык гэта не для нас,
Бо лёс дае магчымасць чалавеку
Адчуць жыццё, злавіўшы зорны час.

## ЖАРТ

С.Ч.

Ну, што тут зробіш? Як тут быць?
Вам, безумоўна, хочацца
Пегаса рыфмай паланіць,
А ён стаіць... і мочыцца.
Ну, што тут зробіш? Ён такі,
Са штукай гэтай носіцца.
Гуляе часам ля ракі,
Ну а ў палон не просіцца.

## У ТЭАТРЫ

С.Анішчанку, В. Храмцову ды іншым удзельнікам музычна-тэатральнай пастаноўкі

Заціхлі рады перапоўненай залы.
Яе працінае сафіта прамень.
За столікам келіхі сумна прыўзнялі,
Наш сённяшні лёс і выгнанніка цень.

Згараюць і тухнуць халодныя свечы,
Губляецца вера і вартасць жыцця.
Палкоўнік Дмыхоўскі, расправіўшы плечы,
На сцэну ўзышоў з-за мяжы небыцця.

Дык што ж адбылося? Чаму цісне грудзі?
Чаму зноў паўсталі мінулага дні?
Чаму на Радзіме манкуртныя людзі
Знішчаюць святыні сівой даўніны?

Ды хай не чакаюць яны падарункаў.
Нам некуды бегчы, тут будзем стаяць!
І з нашых ліцвінскіх, славянскіх падмуркаў
Далей нашай волі і моцы ўзрастаць.

Дык хай жа ірвуць цішыню мікрафоны,
Хай промні святла рэжуць цемру маны,
Каб кожны, хто носіць сягоння пагоны,
Служыў Беларусі, як служаць сыны!

## КАЛІ Б ГЭТА БЫЛО МАГЧЫМА…

Если б было такое возможно,
Я бы первым сейчас учудил:
Распахал бы с «сябрамі» таможню
И картошкою всю засадил…
Н.Болдовский.

Неба сцеле блакіт над лугамі,
Промні сонца лагодзяць зямлю.
Час прыспеў, і я хутка з сябрамі
Бульбу буду садзіць у раллю.

Ды не там, дзе калгасныя нівы
(Там заўсёды амаль недарод),
І не дзеля вялікай спажывы,
А на межах, што дзеляць народ.
Ля Літвы, ці Расіі, ці Польшы,
Будзь то поўдзень ці нават усход,
Будзе ўсюль ураджай, і не горшы, –
Зажыве беларус без турбот.
Чарку выціснем з бульбачкі самі,
Да яе – ладны сала шматок.
Ёсць капуста, мядок з агуркамі –
І не будзе пусты нераток.
Вось таму Мікалай Балдоўскі,
Наш сягоняшні юбіляр,
Рэжа плугам узмежак Пскоўскі,
Я ж на захад цягну свой цяжар.
І, найперш, абаром мы ўсе межы,
Мытні пусцім пад бульбачкі схоў.
Колькі будзе да смаку ўсім ежы,
Колькі скажуць нам ветлівых слоў?!
Вось таму абмяркуйце вы самі,
Як надыйдзе цяпло на зямлю,
Ці паехаць на межы вам з намі
Класці бульбачку там у раллю?

В.М. Ушаку
Начальніку аддзела культуры ў
Дзень нараджэння

Пажадаем Ушаку
Шчасця, плёну на вяку!
Каб былі заўжды сябры
І каб разам у бары
Сабіраліся парой
Пад бахматаю сасной.
Каб ніхто, а сам Крывіцкі,
Род наш славячы мужыцкі,
Сала смажыў на агні,
Прымасціўшыся на пні.
Каб квітнелі ЦэРэНКа,
Цэ-Бэ-эС і Гэ-Дэ-Ка,
Музыканты, спевакі
І, канешне, мастакі.
І каб зведаў ён прызнанні
На змярканні і світанні,
У прыгожы летні дзень

Ды і ў ноч, калі прамень
Месяц шле з высі нябёс,
Каля рэчкі, каля лоз.
Дый увосень, і вясной,
І заснежанай зімой,
Бо культуры роднай гожа
Ўсё, што робіцца прыгожа.
Кожны сёння тут артыст
Жнец, каваль і аптыміст.
І лірычны Феактыст,
Разгарнуўшы чысты ліст,
Паэтычны ўе радок
Пра культурны наш гурток,
Не шкадуючы паперы…
Дык адчынім святу дзверы!

***

Да 8 Сакавіка 2009г
калегам аддзела культуры Полацкага
гарвыканкама

Бягуць ручаі па вясенняй планеце
Нясе сакавік Дзень жаночы па свеце.
Прыселі ля нас чатырнаццаць жанчын,
І толькі пяцёра, ( пяцёра!) мужчын.
Такі вось расклад у аддзеле культуры
Ды толькі не будзе ніякай халтуры.
Мы зробім усё, што павінны зрабіць
Каб гэтае свята вам год не збыць.
А сонца імкнецца і ў вокны, і ў дзверы
І рыфмы кладуцца радком на паперы.
Пачуцці далей немагчыма трымаць
Бо хочацца з кветкамі вас параўнаць.

Вось Каця – мімоза, а ружа – Марына,
Лілея – Часлава, рамонак Ірына,
Людміла і Ала – валошкі між іх,
А словы прызнання для ўсіх шасцярых.
Хай любяць вас грошы, мужчыны і дзеці,
Хай шчасце вас мае заўжды на прымеце.
Хай будзе жыццё, як прыгожы сюжэт.
Вы розныя кветкі, а разам – букет.

Між іншым, аловак бяжыць па паперы:
Натхненне, як вецер, ірвецца праз дзверы.
Ёсць словы жывыя: кахаць і любіць

Без іх немагчыма хвілінкі пражыць.
Ды гэта не кропка, хоць скончан пралог
Мажэйка Таццяна, у Вашых мы ног.
Усё, што прадпісана, мабыць, збылося,
І быць у Сафіі нам з ёй давялося,
І нават у полі, дзе чуецца звон
Забытых падзеяў пад назвай "Рубон".
Яе адчувалі мы побач штодзённа,
За працай патрэбнай, заўсёды надзённай:
У парку культуры, на "Зорным крыле"
І з кубачкам кавы для нас на стале.
Яна намаганняў нямала прыклала,
Каб наша культура адметнаю стала.

Удзячныя Тані, мы крочым далей.
Наш погляд на Юлю кладзецца смялей,
Бо робіцца праца і ўмела, і хутка.
Ды тае сняжынкай хвілінка-мінутка.
Без кадраў, вядома, памерці – не жыць,
І Олю патрэбна асобна любіць!

Ну вось і ўсё. Эпілог на парозе.
Дырэктарскі корпус на нашай дарозе.
Калегі, дазвольце вас крыху спыніць,
З начальнікам побач Людміла сядзіць.
Хто скажа: чаму і якая прычына,
Калі падсядае да шэфа жанчына.?
Ды сэнс тут празрысты зусім нездарма:
За летам заўсёды прыходзіць зіма.
Таму мы і ўдзячны шаноўнай Людміле
За працу, што нам незаўсёды па сіле.
Галоўны патрэбны заўжды інжынер,
Каб ток, як вада, не пабег за каўнер.

Далей ГДК і дырэктар Святлана,
Вядома, багіня, Алімпам прыслана.
Не хопіць прызнанняў у тысячу слоў,
А ўсё ж прызнаёмся ізноў і ізноў.
Бо ведаем мы, як нялёгка змагацца,
Каб гэтак прыгожа штодзень аддавацца
Культуры і працы, каторы ўжо год.
Таму і ідзе на спектаклі народ.
Таму да патрэбы пакуль яшчэ кніжкі,
А гэта Таццяны Савельевай фішкі.
Удзячныя ёй, што расце інтэрнэт –
Прастора планеты, дзе іншы сусвет.
Не менш нас чаруюць Наталлі карціны
Там кожны мастак, нібы квілт Валянціны,

З’яднаў нас ўсіх сапраўды абярэг,
І гэта прыемна. Быць разам не грэх.

## ФАРЫНАЎСКІ ТРОХКУТНІК

Зінаідзе і Генадзю Лёціным
з удзячнасцю за творчасць

У зялёным, у Прыдзвінні,
На шляху да нашай Вільні
Невялікі ёсць пасёлак.
Там між кветак, елак, зёлак
Рэчка песціцца Ўшачка,
А яшчэ жыве спявачка.
Зінай Лёцінай завецца,
Вы паклічце, адгукнецца.
Ёсць яшчэ Цітова Рая,
Тая самая якая
Палюбіла, мусіць, змалку
У калёсы тыкнуць палку.
І каб зладзіўся трохкутнік,
Там расце яшчэ трыпутнік.
Вельмі добрая расліна.
Ды патрэбен нам мужчына.
Хай Геннадзій пасмяецца,
Бо з яго ўсё  і пачнецца.

Да Фарынаўскай дзяўчыны,
Хто б сказаў, з якой прычыны:
Ці з вяселля, ці з журботы,
Ды нацёршы ваксай боты,
(Не інакш даўно нагледзеў)
Завітаў хлапец з суседзяў.
Тых суседзяў, што здалёку,
З Пскоўска - Мурамскага боку.
Ён не доўга прыглядаўся,
Бо адчуў, што закахаўся.
Закахаўся. Не прызнаўся,
Хоць Генадзем і назваўся.
Паглядзеў у вочы Зіне,
Той фарынаўскай дзяўчыне,
А затым узяў гітару
І пачаў спяваць: пра мару,
Пра лясы, палі, азёры,
І пра неба, і пра зоры.
І адчула сэрцам Зіна,
Што настрой у іх адзіны.

Разам з хлопцам заспявала
І далей не сумавала.
А пачуўшы гэты спевы,
Адгукнуліся ім дрэвы,
І рачулкі падыгралі,
І вятрыскі адказалі,
Паплылі яны над гаем
Над крывіцкім нашым краем.
І ўсё б было нічога,
Ну скажыце, што такога:
Паспявалі да паўночы –
Хто ж да спеваў не ахвочы?
Палічылі ў небе зоркі
Ды паслухалі говоркі
Кветак, птушак і звяроў
(Стольки тут дзівосных моў!).
Па расе змачылі ногі,
Мабыць збіліся з дарогі.
Дзе-нідзе прымялі кветкі,
Тут бясспрэчна месяц – сведка.
Так далей і павялося.
Покуль раптам не збылося,
Час ад часу так бывае –
Паспявалі, пагулялі –
Ды вось шчасце напаткалі!
А яно ж у іх такое:
Галасістае, жывое.
У начы яму не спіцца,
Бо любоў да песен сніцца.
Вось чаму і давялося
Заспяваць, як падраслося.
І пайшло жыццё багата,
Бо, дзе спевы – там і свята.
А дзе свята там і госці,
Дарагія ягамосці.
Ім спяваць і весяліцца,
Есці, спаць і не жаніцца.
І вось Зініна сяброўка
Ўе з іх вершы, як вяроўкі.
Піша часам гэтак лоўка,
Нібы дожджык сыпле слоўкі.
Усё на свеце заўважае
Ды і ўсмешку не хавае.
Ёй на вочы трапіў Федзька,
Як і Райка, гэткі ж рэдзька.
Ён жанчынам падабаўся
Фліртаваў ды пасміхаўся.
Прызнаваўся, што кахае,

Што адзін і прападае.
Што Фарынава ён згубіць
Калі Райка часам зблудзіць.
І пайшла далей забава:
Падмігнула Федзьку Рая.
Тэлефон свой падказала,
Пра заробак запытала,
І ён гэтак загуляўся,
Што пры жонцы запытаўся:
Ці адчыніць Райка дзверы
І ў якім яму памеры
Грошы трэба зарабляць,
Каб у госці прыязджаць?
А пасля такой размовы
Жонка страціла дар мовы,
Ды не доўга сумавала,
Мужыка ізноў прыдбала.
Ну а Райка?.. Іншым часам
Пачастуе Федзьку квасам…
І вось зараз ён пакутнік.
Ды аповед пра трохкутнік:
Гена, Зіна і Раіса.
Барды два, адна актрыса.
Кожны з іх таленавіты,
Кожны шчыра працавіты.

# ПИСАТЬ УЧИЛИ НАС ПО-РУССКИ, И НАМ ПИСАЛОСЬ ИНОГДА... (1975 - 1995)



***

А мне не нравится Союз!
Мне Беларусь моя милее,
Где я, трёхлетний карапуз,
Шагал столетнею аллеей,
Где белый аист на лугу
Всегда был братом породнённым,
Где сено шепчется в стогу,
И я живу в свой край влюблённым,
Где пил свободы я вино,
Нажав педаль автомобиля,
И где крючок тянул на дно
Мой друг, карасик-простофиля.
Да, мне не нравится Союз!
Моя мне Родина милее,
Здесь вырос я, как белорус.
Здесь даже ели зеленее.

## I LOVE YOU

Эту тайну в молчанье строгом
Я, как песню, в душе храню.
Губы сладко в любовь прологом
С чувством вывели I love you.

Счастье было в тот миг безбрежным:
Всё казалось в волшебном сне.
Лёгкий ветер в порыве нежном
Трогал шторы в твоём окне.

И закат с высоты неспешно
Падал бархатом с белых плеч.
Мы учились с тобой прилежно
В каждом слове любовь беречь.

Эту тайну в молчанье строгом
Я, как счастье, в душе храню.
Рай небесный всегда от Бога,
Рай земной – это I love you.

***

Пушистые оладьи соседка испекла,
В тарелке белоснежной на стол их принесла.
В её волшебном взгляде небесно-синих глаз
Звучал какой-то милый и женственный приказ.
Тарелка очень быстро пустела на глазах.
Я что-то говорил ей и путался в словах.
А мысли, как видения, будили в сердце страх,
И дерзкая отвага скрывалась на устах.
Но вот оладьи съел я… « Спасибо», – говорю.
Любую цену требуйте…

Ой, что же я стою,
Ведь там картошка жарится, и чай давно кипит,
И дед Егор, мурлыча, зачем-то к нам спешит.

В.Ладику

Он не был моим учителем,
Но тихо звучит « Спасибо»!
Скорее он стал мучителем,
Но сердце не жжёт обида.

Не вижу его Великим,
Но в нём постигаю мудрость.
Он кажется нам безликим,
Но это лишь наша трудность.

Читаю его творение,
Но это мои же мысли.
Постичь не спешу смирение,
Но думы… бунтарства вышли.

Так в чём же его секреты?
А их то как раз и нету.
На всё есть давно ответы:
Он просто несёт их свету.

***

Жизнь идёт, убегает, катится,
И на крутых виражах судьбы
Мне догнать её часто хочется,
Оказаться на шаг впереди.

Но она, как холодная женщина,
И зовёт, и смеётся в лицо.
Расширяется пропасть-трещина,
Ускользает, как дым, в окно.

Так иди! Уходи спокойно.
Я уже не бегу за тобой.
Этот проигрыш приму достойно.
Мир продолжится и за мной.

***

День рожденья, он многого стоит!
Грусть с улыбкой в него вплетены.
Не зовём, но он всё же приходит.
Пьём - не пьём, а бокалы полны…
Так найдём с этим днём пониманье,
Коль пришёл, значит, надо встречать!
И пусть наши исполнит желанья,
Чтобы было о чём вспоминать.

## ВЫ ПРЕКРАСНЫ

«Вы прекрасны! Как всегда прекрасны!»-
Я скажу всё это много раз.
Но теперь, и это стало ясно,
Мир любви был создан и для нас.

Вы прекрасны! Как всегда прекрасны!
Краше лета, солнца и цветов.
Всё сбылось! Вы, кажется, согласны
Стать Богиней моих лучших снов.

Вы прекрасны! Как всегда прекрасны!
Эти строчки вытканы для Вас.
Значит, Боги наши не напрасно
Этот вечер создали для нас.

« ВАЛЕНТИНКА»

В белокрылом мягком снегопаде
Белые берёзки вдоль дорог.
Мы близки сегодня все к награде,
Мчимся без оглядки за порог.
Ах, какой в груди огонь желаний!
Ты его нисколько не туши,
А в страну надежды и мечтаний
С «валентинкой» вместе поспеши.
И из рук святого Валентина
Выпей кубок грешного вина,
Чтобы синяя, как небо, бригантина
Вас качала с милой до утра.

***

Я гляжу, прилип к окошку:
Кисть рябины прямо в нём,
А на крыше чья-то кошка
Счёты сводит с воробьём.
Но воробышек с хитринкой,
Кошке в лапы не спешит.
Над кошачьей гибкой спинкой
С озорством лихим кружит.

***

Я мчался прочь, и город растворялся
В интимной дымке жёлтых фонарей.
А вдоль дороги с ночью обнимался
Осенний лес, уставший от людей.

Он ей дарил шутливые признанья,
А ночь ему – в созвездиях холсты.
И, дополняя лирикой свиданье,
Багрец ссыпала осень на кусты.

А я глядел на чёрную дорогу,
На лунный диск, белеющий над ней,
С самим собой сближаясь понемногу,
И жизнь казалась как бы веселей.

А за спиною город оставался
В интимной дымке жёлтых фонарей,
Где в это время кто-то целовался,
А кто-то вёл на выгул кобелей.

***

Ночь идёт холодной чёрной кошкой.
В прошлое день канул, как всегда.
Знать, и мне руки твоёй в окошке
Не увидеть больше никогда.

И гадать не надо, что за строчкой,
Может, это грусть метёт во мне.
Ты осталась самой светлой точкой
В каждом чистом и безгрешном дне.

***

Где-то там, где призрачно сознанье,
Где в реальности и прочие миры,
Тихо прозвучало, как признанье:
« Не спеши, дождись своей поры».
И рука руль спешно повернула,
На спидометре уже не больше ста…
Видно, нагулялась и уснула
Смерть сквозь сон, лизнув мои уста.

***

Синева рассвета ещё спала,
И дымила белая метель.
У окна ты снежного стояла,
Будто припорошенная ель.
Босиком, в русалочьем наряде,
С личиком озябнувшей луны,
Как бы на весёлом маскараде,
Где глаза под маской не видны.
Только, может, это мне приснилось,
Может, это шалости весны,
Иль в меня ты всё-таки влюбилась
И явилась в качестве жены?..

Письмо от женщины

Я не сплю, каждый миг мой – признанье,
Грусть моя, как ножа остриё.
В листья клёнов вплетает сознанье
Это редкое имя твоё.

Я люблю и уверена: стоит
Это чувство хранить и нести.
Может, осень судьбу приоткроет,
Может, тихо прошепчет: «Прости»...

Ты не пишешь, но я понимаю,
Что во всём виновата зима,
И поэтому я прилетаю
На свиданье снежинкой сама.

***

Говорите, что я раскис,
Что по жизни иду нестойко?
Вы ошиблись, поверьте, мисс,
Просто соль на губах, и горько.
Говорите, рассеян стал
И срываюсь на скользких тропах –
Это просто я плохо спал,
И туман на дорогах-топях.

Говорите, не скромен я
И сужу не по той науке.
Это просто судьба моя
Вновь споткнулась на серой скуке.
Говорите: не то дарю,
И, вообще, разговор напрасен,
Но я это и говорю,
И теперь-то как раз согласен.

***

В узких улочках Хортена[1]
Мы идем неспеша,
За морями – и вот она,
Королевства земля.
Город с красными крышами
В упоенье цветов.
И над кронами пышными
Лёгкий бег облаков.
Но земля моя милая
Сердцу всё же родней.
Эта – слишком счастливая
По сравнению с ней.

***

Пусть сыплет дождь, я все-таки пройдусь
По городу, навстречу листопаду.
И в осень, словно в женщину, влюблюсь,
Приняв её задумчивость в награду.
И буду долго, нежно ей шептать
На улицах, усыпанных листвою,
Что невозможно большего желать,
Чем быть вдвоём с красавицей такою.
И пусть смеётся ветер за спиной,
Что ты меня лишь попросту влюбила,

[1] город в Норвегии

Что, бросив вызов женщине земной,
Восторг и грусть во мне соединила.
Я всё равно любить буду тебя
За красоту, которой ты пленила,
За то, что я как - будто вне себя
Иду туда, где ты лишь проходила.

## КУПАЛЬСКІЯ ПРЫГОДЫ

Раскладайце ж, паліце Купалля агні,
Не за тым, што у сэрцы мінуўшчына,
А каб лепей убачыць наступныя дні,
Да вытокаў душой дакрануўшыся.
Г. Чыгір.

Пяро пайшло ізноў у скокі –
Няма ніякай тут віны,
Так, час прыпомніўся далёкі,
Што бег павольна ля Дзвіны.
Калі стагоддзямі праз рэкі,
Уздоўж крывіцка-балцкіх хат
Плылі “варагі аж у грэкі”[2]
Ды і ў Арабскі халіфат,[3]
Тады паўсюдна панавалі
І Сонца-бог, і бог Пярун,
З Ярылам людзі сябравалі,
А сцежкі блытаў бог Лясун.
Тады вадзіліся русалкі,
Жыў у Прыдзвінні Вадзянік,
А на вясеннія проталкі
Глядзеў з акенца Дамавік.
Зімой спраўляліся Каляды,
З вясной прыходзіў Вялікдзень...
І для багіні лета – Лады
Вяселля быў абраны дзень.

Багіня статнай палачанкай
На дзвінскі бераг узышла.
Прад ёй прыгожай крывічанкай
Рака павольная цякла.

Вакол спявалі звонка птушкі,
І луг духмянасць разліваў,
Ёй промні сонца, нібы стужкі,
У косы ветрык уплятаў.
Яна ад шчасця жмурыць вочы,
І сэрца радасна трымціць,

[2] Водны шлях праз Беларусь між Балтыйскім і Міжземным марамі.
[3] Дзяржава начале з халіфам (правіцелем)

І твар яе, нібы дзявочы,
І палымнее, і гарыць,
Бо набліжаецца спатканне:
З вяселлем едзе Сонца – бог,
Які адчуў агонь кахання
І патушыць яго не змог.
А каля рэчкі на пагорку,
Сярод раскідзістых дубоў,
Гучала весела гаворка,
І дух лунаў былых часоў,
І далеч поўнілася спевам
Купальскіх звонкіх галасоў,
І плёў вянок сабе пад дрэвам
Сівы, старэнькі бог лясоў...
Тут сёння ладзілі Купалле
Героі нашых дзіўных дзён.
Тут адчувалася яднанне,
І, значыць, быў у гэтым плён.

Між іншым, побач, у балоце,
Пад корч забіўшыся глыбей,
Сядзела ведзьма ды ў маркоце
І побач – некалькі чарцей.
Ды хто не ведае прычыну?
Пранёсся слых аж пад зямлёй,
Прыняўшы Ладу за дзяўчыну,

Пачаў чарцяка шкодзіць ёй:
Схапіў з-пад рук яе сунічку,
Затым дзядоўнікам[4] узнік,
А потым нават за спаднічку..,
Але раптоўна недзе знік.
Бо сам Пярун за дзею гэту
Так пекануў яго агнём,
Што чорт амаль не бачыць свету,
Не толькі ноччу, а і днём…
І вось таму яму вядзьмарка
Настоі зёлак піць дае,
І каб пазбегнуць з чортам сваркі,
Сама гарэлку з мёдам п'е.

[4] лапух

Але бяда заўжды мінае –
Жыццё на месцы не стаіць.
І чорт таксама ачуняе.
І зноў, як кажуць, "засвярбіць"...
А нам тут трэба прыпыніцца
І на пагорак завітаць,
Дзе можа Сонца - бог з'явіцца,
Каб шчасце з Ладаю пазнаць.
Ды ёсць нязменнае значэнне
Купальскім дзеям на Зямлі:
Яны даюць нам ачышчэнне,
Каб чэрці шчасце не звялі.
Ачысціць трэба дух і цела:
Агонь патрэбен і вада,
Бо сіла цёмная паспела
За год прыліпнуць, як нуда.
Таму Купалле – гэта свята,
А свята там, дзе быць агню.

Адсюль жадаючых багата
Вяршыць Купальскую гульню.
Найперш Васіль, а з ім Алеся,
Анісь, Мікола ды Сяржук,
Хто – з Вішнякова, хто з – Залесся,
А Наста – нават аж з Прылук.
Але і хлопцы, і дзяўчаты
Тут рукі склаўшы не сядзяць:
Іх дзень быў працаю пачаты,
І песні з раніцы гучаць...
А з песняй ладзіцца і справа:
Рыхтуюць вогнішчы, іх пяць.
Успыхне першае яскрава –
Яму ж у цэнтры і шугаць.
Чатыры, меншага памеру,
Абапал першага – далей,
З таго вядомага намеру:
Трымаць наводдалі чарцей...
Стаіць у першым слуп – альшына,
А зверху – кола і вянок,
Вакол слупа, як тын, драўніна,
А побач нават – стаўбунок,

У ім ёсць крэмнею кавалак,
Бяроста з крэсівам ляжыць,
Бо трэба будзе без запалак
Агонь апоўначы здабыць.
Ну, а дзяўчаты, як заўсёды,
Збіраюць кветкі для вянкоў,
Ды зноў чакаюцца прыгоды:
Нячысцік сочыць з-за кустоў.
Вось гурт дзявочы расцягнуўся
Між спелых зёлак ланцужком –
Нячысцік тут жа апынуўся
Каля Алесі малайцом.
Алеська вочы праціраe,
А чорт у выглядзе карча
Застыў і мохам абрастае,
І нос, як сук, увысь тарчма.
І што б далей тут адбылося,
ы можам меркаваць.
Каб блізка хлопцаў не знайшлося
На чорта дрыжыкаў нагнаць.
Васіль убачыў корч здалёку
(Відаць быў гэткі чортаў лёс),
І хоць няма з карча прыпёку,
Усё ж да вогнішча прынёс.
А гэтым часам да дзяўчынкі
Нябачнай Лада падышла
І праз дажджынкі з аблачынкі
Ёй сілу зёлак надала.

А Сонца - бог ужо імкліва
Сыходзіць з неба ля вады
І тушыць промні нецярпліва,
Бо ён сягоння – Малады.
Ды вось прыгожая русалка
Цішком да бога падышла,
І прашаптала нешта палка,
І выгляд Лады прыняла.
Бо, кажуць, нават на мякіне
Мужчын магчыма спадмануць,

Калі захочацца жанчыне
Сябе Купалінкай[5] адчуць.
Ну, а калі яшчэ каханне...
Тут варта шмат чаго чакаць!
І Сонца - бог адчуў жаданне...
Ды грэх пра гэтае казаць...
Але тут Лада заспявала,
І гэты голас бог пазнаў:
Прад ім багіня паўставала,
І ён ад шчасця аж заззяў.

Ну што ж, спатканне адбылося...
Чаго далей яшчэ жадаць? –
Што ад кахання пачалося,
Вяселлем трэба завяршаць.
Ды хай багі ўсё ладзяць самі.
Мы можам іх павіншаваць!
Цяпер яны нябачна з намі
Купалле будуць святкаваць.
І на пагорку той жа меркай
Гульню у "Явар" пачалі,
А там "Падушачка" з "Цяцеркай"
Дзяўчатак з хлопцамі звялі.
І нават кветачкі гулліва
Шапочуць штосьці між сабой.
І да бярозак сарамліва
Дубочкі крочаць чарадой.
У ноч Купалля ўсё магчыма:
Выходзяць скарбы з-пад зямлі,
Блукаюць чары за дзвярыма,
Каб шчасце смелыя знайшлі...
Ды час імкнецца да паўночы.
У небе зорачка трымціць,
Наўкола спеў плыве дзявочы –
Прыспела вогнішча паліць.
Агонь Васілька здабывае,
Ён крэсіць камень – агнявік,
І іскра-ясачка злятае,

[5] самая прыгожая дзяўчына

За ёй дымок, бы здань, узнік.
Бяроста ўспыхнула імкліва,
Агеньчык голле ахапіў,
І толькі корч, ці чорт, цярпліва
Сіпеў і параю валіў.
А спевы моцы набіралі,
І гэта дых дало агню,
Хоць чэрці злоснае шапталі,
Ён шугануў у вышыню.
Вакол яго пайшоў вясёлы
У гонар Сонца карагод.
Палае май[6], вянкі і кола –
Гарыць грахі людзей за год.
А карагод жывы, рухомы,
То вольна коціць, то бяжыць,
І, як агонь, не мае стомы,
І рэчкай спеўнаю гучыць.
Ды ўжо хістаецца альшына,
Да зор прастаюць іскры шлях.
Для шчасця ёсць тады прычына,
Калі бог лясне па плячах.
А чым ён лясне – бога справа:
Кавалкам кола ці вянком.
Абы святочная забава
Нядоўга ззяла шышаком.
Відаць, таму пад гул вясёлы
Усёй купальскай грамады
Лятуць, лунаюць рэшткі кола –
Знаць, шчасце будзе сапраўды!
І бог, нарэшце, абрынае
Да ног Алесі з Васілём
Той слуп – альшыну, што палае
Жывым абрадавым агнём.
Але шышак за двох дастаўся,
Вядома, хлопцу, як заўжды.
І хоць балела, ён смяяўся,
Бо смех збаўляе ад бяды.
Ды як на шчасцейка злавацца,

[6] старыя рэчы,сухое ламачча

Калі да іх яно прыйшло?
На “шчасце” трэба мілавацца
Каб “да вяселля зажыло”...
Але Купальскія падзеі
Імпэт далейшы набылі,
Бо чэрці, ведзьмы, чарадзеі
З прыходам цемры ажылі.
Люцыпар зладзіў апытанне,
Як шкоды болей нарабіць?
Засунуў znічкі[7] пад курганне,
Каб іх святлом людзей чмуціць.
Вядзьмарка выбілася з багны,
Каб кветку - папараць шукаць.
Пры тым ёй мроілася прагна
Каханнем хлопцаў ашукаць.
І нават чорт стары, гарбаты,
У Полацк цемрай сігануў,
Падпёр спачатку дзверы хаты,
Затым дрывотню абярнуў.
А ля Алесі – смех ды жарты,
Ёй келіх крупніка[8] даюць,
І ён, бясспрэчна, таго варты,
Бо і багі той крупнік п’юць.
Адзін глыток яго – сагрэе,
Другі – вяртае маладосць,
А хто п’е болей, той шалее,
Тады нячысцік – лепшы госць.
Таму, адпіўшы па глыточку,
Васіль з Алесяю удвох
Блукаць пусціліся у ночку
Туды, дзе зёлкі,чага, мох,
І дзе зіхцяць маною зьнічкі,
І ведзьма кветкі сцеражэ,
І дзе вячыстая крынічка
Руччом у бок Дзвіны цячэ…
Ды хто шукае, той знаходзіць.
І мо таму да Васіля

[7] падаючая зорка
[8] купальскі напой – вада, зёлкі, мёд, гарэлка

Лясун ціхенька падыходзіць,
Што, як прывід, блукаў здаля.
Што робіць ён? Ці ж нехта скажа?
Вядома, бог і чараўнік...
Але, відаць, сябе пакажа,
Бо нездарма ён тут узнік.
І вось вядзьмарка ясна бачыць,
Як ля Алесі з Васілём
Агеньчык папараць кудлачыць:
Гарэць пялёстачкі агнём…
Яна скідае строй вядзьмарскі,
Спрабуе кветку прыхаваць,
Ды толькі спрыт яе штукарскі
Пачаў магчымасці губляць.
Васіль з Алесяй назіраюць,
Як кветка – папараць цвіце,
І праз сардэчкі адчуваюць,
Што час кахання іх ідзе.
Знаць, шчасце вусны іх збліжае,
Кладзецца коўдраю на мох,
І сіла цёмная знікае,
Бяжыць з усіх, як кажуць, ног.

Ды гаснуць вогнішчаў зарніцы –
Прыспела зоркам патухаць...
Будынкі Полацка - сталіцы
На золак вокнамі глядзяць.
Каб ад грахоў уратавацца,
Пара праз вогнішча скакаць,
Дый у вадзе хутчэй купацца,
І па Дзвіне вянкі пускаць.

ВАЛЯНЦІНА

Хутка поўдзень. Зімовая беласць,
Мяккім снегам пакрыты масты.
Хтосьці выказаў дзіўную смеласць,
Чыстым срэбрам прыбраўшы кусты.
На пагорку красуюць яліны.
Сонца лашчыць абшары зямлі.

І на гронках чырвонай каліны,
Як званочкі, гамоняць гілі[9]...”

*Развражанні Лявона*

Вершы добра. А лепш самагонка,
Ды каб шкварка да чаркі была.
Ну і дзіўная фермера жонка:
Мне, чужому, чырвонец дала.
Толькі, можа, не жонка? Сяброўка.
Фермер Валяй яе называў...
Ды па іх не баліць мне галоўка,
Дзякуй Богу, што чарку прыдбаў.
Гэты фермер, Валодзька Прыгодны,
Шмат гадоў на зямлі працаваў.
Потым з’ехаў, пакінуў край родны,
А надоечы зноў завітаў.
Ён і Валя цяпер мне казалі:
–Лёнька! Кінь ты! Няможна так жыць!
Гэта мы задарма працавалі.
Мо табе будуць трошкі плаціць?
А Валодзька быў добрым суседам:
Шчодры, мудры, пабачыў ён свет –
Частаваў і гарэлкай, і хлебам.
Хто мог думаць, што фермер – паэт!
Вось знайшоў яго вершы. Пабачым,
Што тут добрага можна набыць?
У жыцці нашым, хоць і сабачым,
Трэба кеміць, каб неяк пражыць.

*Фермер-паэт*

...Штосьці доўга не бачна каханай:
Вочы сёння прагледзець паспеў.
Толькі ў хаце, старанна прыбранай,
Печ вядзе свой агністы напеў.
Задуменна мурлыкае кошка,
Кот, сабака маўкліва сядзяць,
І падлогі сасновыя дошкі

[9] гілі

Чысцінёй бездакорнай блішчаць.
Дзе жанчына, што гэтак імкліва
Мой напоўніла радасцю дзень,
Не заставіўшы, многім надзіва,
Ад ляноты маёй, хоць бы цень?
Стол накрыты, да часу прыпасы:
Бульба, сала, бутэлька віна.
Ёсць капуста, катлеты, каўбасы.
Нават многа, бо госця адна.

...Валя – доктар, а муж – падпалкоўнік,
Што нядрэнна заўжды працаваў,
Ды вось выпіўку любіць законнік,
Праўда, гэткім нядаўна ён стаў.
А раней быў з вялікай ідэяй,
У калгасах прамовы рабіў
І лічыў камунізм панацэяй,
І начальству аддана служыў.
А пад час выступаў як палітык –
І калісьці ён шмат вырашаў,
Ладу іншага строгі быў крытык,
А вось хабар амаль што не браў.

Ну а я?.. Я, магчыма, тут лішні –
Зараз фермер, хутчэй жа жабрак.
І савецкі студэнцік калішні,
І мясцовы грыбнік і рыбак.
Халасцяк, ды паверце, каханне
Сёння побач у светлай цішы:
І да сэрца ідзе як пасланне
З чалавечай ці Боскай душы.
І таму з Валянцінай сустрэчы –
Свята чыстых пачуццяў заўжды...
Дай жа, Божа, любому, дарэчы,
Хоць аднойчы кахаць сапраўды...

Чую крокі... Лявон! Адчыняю.
– Вось прынёс, – кажа, – свежых газет.
Ды смяецца. Ну, што ж! Запрашаю.
І ён шпарыць напрост да катлет.
Выпіў чарку, за ёй і другую.

Не без таленту мілы сусед.
Разгарнуўшы газету старую,
За лікбезам мой нішчыць абед.
“Можа, праўда а, можа, і казка:
Зноў будуем савецкі мы рай?
Ты глядзі: аднакласнік мой Сашка
Стаў вядомы на ўвесь белы край.
Быў славутым, ды як забіяка,
На галёрцы заўсёды сядзеў,
І лічылі яго небаракам,
Ён жа вунь як высока ўзляцеў.
Для любога пісца-прайдзісвета,
Сёння ён нібы сонца прамень.
Толькі думаю я, што ўсё гэта,
Не падыме калгас наш з калень.
Бач, “свае” і “чужыя” народы...
А далей, праз радок і штораз,
Пра вялікія планы, заводы,
Ды пра “танныя” нафту і газ.
Ну, пабач, нават пішуць пра хібы:
Без “дазволу” змянілі цану.
Шмат вады, але мала рыбы.
І пра рэктара шчэ ВНУ.
Толькі болей за ўсё вінаваты,
Разнамысны, цікавы народ –
Той, што мае імя – дэпутаты
Ды бунтуе каторы ўжо год.
Вельмі хочацца роднай ім мовы,
За Радзіму паўсталі гарой,
А хаўрусныя нашы дамовы
Лічаць здрадай і шкоднай лухтой...”
Лёня склаў акуратна газеты
І выразна дадаў: “Ну і свет:
Там Хрыста прадалі за манеты,
Тут – сумленне, за пару катлет...”
Ды на гэтым спыняцца не стану:
У рыбгасе і сам працаваў,
Дзе дырэктар заўсёды, для плану,
Рэчаіснасць прыпіскай “здабраў”.
Як пілі! Як жылі! Як “круцілі”!
Гадавалі начальству бычкоў.

А ў Саўмін і ЦК адвазілі
Самых свежых адборных ляшчоў.
Тых, што меншага крыху памеру,
Для мясцовых трымалі князькоў.
А вось люду давалі праз меру
Невялікіх, худых акунькоў...”
Тут Лявон мой нарэшце спыніўся.
Выпіў рэшткі паціху віна,
Закурыў – і па хаце павіўся
Дым ад “Прымы” наўпрост да акна.
І пайшоў у ляноце, няспешна,
Да сваіх пачарнелых вуглоў.
Пасмяяцца? Ды нешта не смешна
Ад яго філасофскіх размоў.
І таму я прысеў ля канапы,
Уключыў шматгалосы свой ВЭФ,
І пакоі драўлянае хаты,
Перапоўніў ратвейлераў брэх.
Добра чуліся жудасці гукі
(Ах, ты мілая Белая Русь!):
– Падпалкоўнік, круціце ім рукі.
І як выбух: – Жыве Беларусь !

Ну, ды хопіць. Пара мне і ў краму.
Сёння “хлебны” на вёсачцы дзень.
Зачыніўшы жалезную браму,
Я пакрочыў пустошыць кішэнь.
Паўз дарогі прыціхлыя вёскі.
Між прыгожых будынкаў чыноў
“Усміхаюцца” дзюркамі дошкі
Пакасіўшыхся хат і хлявоў.
Абразы тут яшчэ на бажніцы,
Толькі ладу няма між людзей.
Перакроілі часу нажніцы
Ўсё жыццё, нібы цмок - ліхадзей.
Тут даўненька нячутны вяселлі.
А за гной або бульбы мяшок
Просяць моцнае вадкае зелле
Ды на закусь яшчэ і гурок.
Тут улада, відаць, не ад Бога.
Хоць і кажуць інакш святары...

Абяцанак даецца замнога
Ды яны нібы дым у гары.
Не ўсялякі панок Богу любы:
Бог імкнецца народ ратаваць,
А вось тут распадаюцца шлюбы,
Люд тутэйшы пачаў выміраць.
Не па-Божаму, бацюшка, слову
Важны невук, забыўшы свой род,
Хаіць нашу бацькоўскую мову,
Каб маўчаў, як знямелы, народ.

Падыходжу да крамы – гулянка.
Ад гарэлкі ліпучы смурод,
Ну, а ў баб, что стаялі на ганку,
Ад навінаў маршчыніўся лоб.
Ах, як смешна! Пацеха да часу:
– Кажуць, выйшаў там нейкі загад:
Дэмакратам ні хлеба, ні квасу.
- Зніклі людзі? Памёр дэпутат?
- Кажаш, гора? І мы гаравалі.
Вось вам крыж! Сведкі ночка і дзень,
Як рабы, на зямлі працавалі
За калгасны пусты працадзень.
А далей – пра банкіршу гаворка.
Бабы моўчкі не могуць стаяць:
“ Зменяць грошы, дзе воўк ды вавёрка.
Нам расійскія будуць даваць.”
(Вось што грэе вясковыя душы.)
Ды са здзекам сказаў Манін зяць:
“ Ай, не ўбачыць вам гэта, як вушы,
Грошы трэба самім зарабляць.”

Моўчкі слухаў я іх і дзівіўся,
Як жа хутка пасля СССР
Слоўнік нават на вёсцы змяніўся,
Кажуць: офіс, банкірша і мэр.
Толькі вось падрулíла машына:
Хлеб прывезлі, пара гандляваць.
І цяпер прадаўшчыца Яніна
Пачынае хутчэй працаваць:
На прылаўку ляжаць кураняткі,
У куточку – начныя гаршчкі.
Цукар знік, але ёсць шакаладкі,

Шмат гарэлкі. Мука і "ражкі"[10]...
Хлеб у торбе – дамоў, на канапу,
У зімовую сон-цішыню,
Дзе сабака працягне мне лапу,
Кошка песню змурлыча сваю.

Поўняць свет хутканогія чуткі,
Бы віхура яны ля бабуль:

– Стараваты, але яшчэ гнуткі.
– Хто чакае? Якая? Адкуль?
Ай, душа ты мая, небарака...
Крочу так, што ўзмакрэла спіна.
Вось і хата. Каты і сабака.
А на ганку?.. Напэўна – яна!..
– Добры дзень! Я зусім зачакаўся.
– Прывітанне! Але ж не чакаў.
– Вінаваты. Прабач. Затрымаўся:
Для цябе зорку шчасця шукаў.
– Тая "зорачка" ў гэтай вось хаце,
І таму ты яе не шукай:
Ты – мой боль, мая радасць, багацце.
Замарозіў. Хутчэй запрашай.
Адчыняю. Праходзім у хату,
А насустрач – цяпло, чысціня.
Распранаю. Саджу на канапу.
Прапаную гарбаты, віна...
Словы добра, ды ежа не лішак.
Сала смажыцца, нават сквірчыць,
А на шкельцах двух тонкіх кілішкаў,
Водбліск полымя печы дрыжыць.

– Як дарога? Прыстала, дарэчы?–
Ёй у светлыя вочы гляджу.
–Ах, каханы! На нашы сустрэчы
Я на крылах, як птушка, лячу.
Словы болей наўрад ці патрэбны?..
А ў вакенцах мароз ды зіма.
І даўно для малюнкаў іх срэбных

[10] "ражкі" – макароны

Вольных месцаў на шыбах няма.

Я шчаслівы! Ды нeяк вось сумна
Павяла Валянціна свой сказ:
–Муж губляе жыццё неразумна –
У папойках ён бавіць свой час.
А я думаў пра іншыя рэчы...
Мо ад прозы чужога жыцця
Рукі самі ляглі ёй на плечы,
Набліжаючы стан забыцця…
І змянілася тэма імкліва:
Разам мы ўспаміналі той час,
Дзе жыццё ці сам лёс церпяліва
Меркавалі спатканне для нас...
– Быў жа час, што кахала я мужа,
Ну а ўчора адбыўся развод,
І хоць звонку завея і сцюжа,
У душы маёй радасці ўзлёт.
Валя хутка дастала паперу,
Твар шчаслівы прыкрыла рукой:
– Павіншуй! Размянялі кватэру.
У мяне асабісты пакой.
– Што тут скажаш? Ты зараз на волі.
Гэта, мабыць, найлепшы расклад.
Мы цяпер – як той вецер у полі,
І таму, безумоўна, я рад.

Вечарэе. Далёкія зоркі
Хтосьці белым святлом запаліў.
Вецер супраць акна на пагорку
Снег-пярыну ў сумётах узбіў.
– Раскажы пра жыццё, мой каханы, –
Шэпчуць спелыя вусны яе. –
Кажуць, стаўся заможным ты панам,
І пашырыў надзелы свае?
Я маўчаў, ап’янёны пяшчотай
Белых, цёплых, спагадлівых рук.
А за вокнамі ціхай самотай
Выў сабака, мой добры сябрук.

І далей успаміны, як хвалі,

Налятаді адзін за другім,
Нібы штосьці такое шукалі,
Што і нам невядома самім.

*Успамін фермера*

Хіба стаў? Тут няма чым хваліцца…
Каб кавалак зямлі атрымаць,
Я не ведаў, каму і маліцца,
Перад кім капялюш свой ламаць.
Толькі ўсё ж я, з законам у згодзе,
Свой пашырыў зямельны надзел.
Карпы зараз мае вось у модзе,
У пчалярстве пашырыў удзел.
Ды мой самы вялікі здабытак –
Гэта статак малочных кароў.
І за ўсё гэта маю прыбытак
На падаткі. Ды сто мазалёў.
Тут варожасці аж занадта,
Сходы, згоды – ўсяго не злічыць.
На паперы... амаль што выдатна,
А на справе – гатовы забіць.
Вось прыпомніўся зараз мне лектар,
Падпалкоўнік унутраных спраў:
Шмат казаў пра злачынны ён сектар,
І парады сялянам даваў.
Сыты, гладкі, а вочы адводзіў,
Нібы стрэл прагучаў яго сказ:
"Не патрэбны нам фермеры – й годзе,
Хай ідзе працаваць у калгас".

Важны рак, ды вось вочанькі ззаду,
Не крануў яго сённяшні час:
Хтосьці, можа, прыняў бы параду,
Толькі гэта цяпер не для нас.
І таму я без кроплі пазёрства,
Падтрымаўшы ягоны пачын,
Адказаў яму болей, чым дзёрзка:
"Вы спаілі там нават жанчын".
А далей, пасля гэткай заўвагі,
Што было яму яўна не ў лад,

Захацелася выпіць хоць брагі,
Каб забыць гэты горкі разлад.

Мне не вельмі прывабна спіртное,
Хоць гарэлка, а хоць і віно,
Бо бабуля казала пра тое,
Што гарэлка і гора – адно.
Словы гэтыя, нібы замова,
І трымалі мяне доўгі час,
У задуме ішоў я, ды слова
Мяне раптам прывабіла – Квас.
І я, стомлены дзённай спякотай,
Недарэчнасцей поўнячы рад,
У імгненне, з вялікай ахвотай,
Шклянак пяць апустошыў падрад.
Вось аб тым, што “набраўся” я квасу,
Мне прыйшлося затым шкадаваць
І, хоць гэта было не да часу,
У бальніцы дзён дзесяць ляжаць.
Так ангіна мяне падкасіла,
Што нямілы свет белы мне стаў,
І дакторка мяне “запрасіла”
Зведаць лекаў бальнічных і страў...

Ах, дакторка ў бялюткім халаце!
Ёй прыгожага больш не дадаць.
І заўсёды ў бальнічнай палаце
Яе голас быў зранку чуваць.
Праўда, я яе нібы не бачыў.
Быццам гэта быў нейкі цень,
Быццам штосьці адчуў і прадбачыў,
Быццам вочы сляпіў мне прамень.
І цягнулася гэтак за тыдзень,
Я пачаў рыхтавацца дамоў,
Ды пры ёй Ванька выгукнуў:”Зльыдзень!”
У дадаў стосік ёмістых слоў.
А гукнуў ён з такое нагоды,
І ў той час, як Іванаў сусед,
Васілёк, весяльчак ад прыроды,
Ладзіў чытку нам нейкіх газет.
Словы ганьбы тады прагучалі,

Як Васіль паказаў нам той дах,
На якім на кавалкі падралі...
Старажытны! Дзяржаўны! Наш Сцяг!
Потым хтосьці сказаў пра рублёўку[11],
Што на кніжках савецкіх ляжыць:
“Грошай там на аўто, а рыдлёўку
Нам за іх немагчыма набыць.
А казалі: “Вярнём.” Падманулі.
Абяцаць – не араць і касіць.
Дый парадкі балюча кранулі
Тых, хто марыў па працы і жыць”.
Прадпрымальнік прамовіў: ”Ён хворы.
Яго трэба, бясспрэчна, лячыць”.
Інжынер адгукнуўся: “Здаровы.
Вось таму яго трэба судзіць”.
А дакторка, між іншым, стаяла,
Тут жа, побач, ля гэтых людзей.
Быццам выйсце якое шукала
Ад далейшых прамоў і падзей.
Мы спаткаліся з ёю вачамі
І, чамусьці, далей я дадаў:
“Можа, мы вінаватыя самі?
Кожны сам, ад сябе, выбіраў!”
І адпала жаданне спрачацца.
Я сышоў за бальніцу, у гай,
Каб у думках сваіх разабрацца
(Бо гаёк для душы маёй – рай).
Дзень сыходзіў у ноч паступова,
Захад хмаркі пачаў фарбаваць,
І сутонняў таемная мова
Пачынала прыемна гучаць.
А ў травах свірчэлі конікі,
Сола віў салавей за ракой.
Хтосьці спрытна іграў на гармоніку
І мяняўся пакрыху настрой.

Я ішоў, вецярок уздагонку
Шэпт даносіў кустоў і травы.
– Можа, Вам пагадаць на рамонку?
Я спыніўся: “Ах, божухна! .. Вы?..”

[11] рублёўка –грошы

Сапраўды, на пянёчку, о шчасце!
У халаце сядзела яна!..
“Валянціна Пятроўна? Ну, здрасце!
Не пазнаў. Вы і ў лесе? Адна?!”.
Ды вось з вуснаў яе ані слова –
Пад усмешку схаваўся адказ.
Толькі месяц бялёсай паловай
Зацікаўлена глянуў на нас.
”Вы прыгожая! Выдаў Бог шчасце:
Ёсць дачушка, магчыма, і сын,
Муж ратуе ад рознай напасці,
Ды, напэўна, важнецкі ён чын?”
І вось чую: “Прыемна і рада,
Што хвароба ад вас адышла,
Толькі будзе мая вам парада:
Квас не піць, – і далей дадала. –
Так, я замужам.Муж мой чыноўнік,
Падпалкоўнікам сёлета стаў.
Ёсць сабачка – сябрук і ахоўнік,
Ну, а іншага Бог мне не даў”...
А далей час, ласкавы, бы вецер,
Паляцеў, як адзін наш уздых.
Гаварылі пра ўсё мы на свеце:
Ад багоў да падзеяў зямных.
І калі я пакінуў бальніцу,
Свет здаваўся нам значна шырэй:
Быццам хтосьці для нас таямніцу
Расчыніў у каханне далей.
Наша шчасце было безумоўным:
Мы вязалі агульны вянок,
У пачуццях імгненнем цудоўным,
Да спаткання быў кожны наш крок...

...Успаміны! Ды сёння ж спатканне,
І нарэшце я ёй адказаў:
“Не ў багацці цяпер пытанне,
Бо жыццё, як рачны ледастаў:
Люд бяжыць за мяжу, на чужыну,
Хто на захад, а хто і на ўсход,
І хоць нашу прызналі краіну,
Ці адчулі сябе як народ?
Без вайны, дык не маем і згоды,
Люд краіны жахліва маўчыць,

Нават Быкаў – сумленне народа,
У замежжы прымушаны жыць”.

Толькі Валя пра гэта не чула.
Мабыць, сон навяла цеплыня,
Бо яна нечакана заснула,
І ахутала нас цішыня.
А агеньчык у печы сінечай
То патухне, то зноў узляціць.
Ноч усю, ап’янёным сустрэчай,
Нам хацелася толькі любіць.

...Ах, жыццё! Яно больш чым імкліва.
Валя з’ехала. Сёння адзін.
Над паперай сяджу я цярпліва,
Добрых пяць, а, мо, болей гадзін.
Што тут зробіш? Загад патрабуе
Дадатковы падатак плаціць,
Ды такі, што там нехта мяркуе
За кошт фермераў добра пажыць.
І таму, хоць балюча і горка,
Гаспадарку прыйдзецца збываць.
На маскоўскіх ці польскіх задворках
У “браткоў” хлеб і працу шукаць...

Лета. Цёплае звонкае лета...
Я чытаю ад Валі радкі.
Піша: “Любы, каханы, што ж гэта
Да мяне напісаць не з рукі?
Як жывеш за мяжой? Ці ёсць праца?
Тут у нас, як заўсёды, бурліць.
Шмат лядовых будуем палацаў.
Ды за іншае сэрца баліць:
Зараз ціха, бязлюдна і пуста,
Там, дзе ў шчасці мы разам былі.
Быльнягом  і кусточкамі  густа
Землі зараз твае заараслі...”

Прачытаў – і аж сэрца замлела.
Больш як год я пакінуў свай край.
Божа мілы,  няўжо мы здурнелі?
Ну навошта замежны мне рай?
На цягнік! На сустрэчу з краінай,
Дзе балюча падчас мне да слёз.

На цягнік!! На сустрэчу з жанчынай,
Без якой мой не споўніцца лёс...

– Ай, Валодзька!.. Ды, быццам прыгожа!
Журналістам аддам... Не за так.
Мне, Лявону, хоць хто-небудзь, можа,
Дасць на хлеб і бутэльку пятак.

2000г.

# ВЯСКОВЫ ТЭАТР

Прысланіўшыся да вугла прыбіральні, Васіль Гваздадзёр з усмешкай назіраў, як за паваротам дарогі знікае райвыканкамаўскі УАЗік. Менавіта адсюль Васіль, як з тэатральнай ложы, назіраў за ўсімі падзеямі, што адбываліся на вясковай сцэне жыцця. Сёння ён быў задаволены. Інтрыга атрымалася. У адрозненне ад падзеяў мінулага, калі Васіль даў першы ўрок свайму новаму суседу Стасю Кандраціку, зараз зерне трапіла на патрэбную глебу. Ды і тады, сем гадоў назад, усё было б добра, каб не мясцовы ўчастковы.

Васіль успомніў, як, злавіўшы суседскае кураня, якое трапіла на ягоную тэрыторыю, на вачах дзятвы і дарослых разадраў яго за ногі на дзве паловы. Во відовішча пачалося!.. Жонка Стася страціла прытомнасць, малыя паднялі такі гвалт, што Васілёвы козы пачалі бляяць нейкімі д'ябальскімі галасамі, а Кандрацік, як ашпараны, паляцеў у сельсавет да ўчастковага. Апошні выклікаў Васіля на ўчастак і, працягнуўшы яму дзіцячы пісталет, запытаў, чым той пахне. Васіль зразумеў, што справа пахне, як кажуць ў народзе, порахам, і прыціх. Зараз ўчастковы на пенсіі, і гэта павялічвала шанец на поспех.

Васіль пагладзіў рукой шурпатыя, але чамусьці заўсёды цёплыя дошкі прыбіральні, ды тут жа ўскочыў у нутро і хуценька прысеў, пры гэтым пачуўся нейкі трэск, быццам лопнуў гузік. У жываце рабілася нешта незразумелае. Так усё было добра, і вось, на табе – дарадаваўся. Васіль, каб удыхнуць свежага паветра, штурхануў рукой дзверы. Перад вачыма, як заўсёды, паўстаў суседаў агарод. Каб заглушыць колікі ў жываце, пачаў успамінаць, як Кандрацік блытаўся ў высокай густой збажыне, спрабуючы выгнаць галодны казліна-авечы Васілёў статак са свайго пшанічнага поля. Бывала, пабегае дзень за авечкамі па каласістай пшаніцы і супакоіцца. Для няўрымслівых жывёл пачыналіся залатыя дні. Частуйся, колькі хочаш. Бараны хутка набіралі вагу, козы давалі больш малака, а Кандрацік адставаў са сваімі прапановамі навязваць хоць бы найбольш адкормленных казлоў. І так адбывалася на працягу некалькіх гадоў.

Але сёлета сусед набыў машыну і мог у любы момант прывезці з сельсавета непажаданых сведак. Таму і трэба было зрабіць апераджальны ўдар. І Васіль, як ён рабіў не аднойчы ў дачыненні і да іншых суседзяў, напісаў скаргу. Ды не куды-небудзь, а адразу ў зямельны аддзел выканкама. З улікам таго, што Кандрацік адмовіўся ўдзельнічаць у апошніх парламенцкіх выбарах, а пра гэта ўсе добра ведалі, патрэбны вынік Васіль бачыў амаль наяве.

У жываце зноў нешта выразна завурчэла, завуркатала, і ён, на ўсялякі выпадак, прычыніў дзверы прыбіральні. Крыху апамятаўшыся ад чарговага прыступу, Васіль са злосцю падумаў: "Ну ні падаваць жа скаргу ў суд ці сельсавет, там і на чыстую ваду вывесці могуць. А вось райвыканкам – іншая справа. Там яшчэ ў былыя часы любілі папоркацца ў нясвежай бялізне. Яны акторы больш высокага ўзроўню. Канешне, вынік быў бы больш станоўчы, каб удалося заручыцца подпісамі пад скаргай яшчэ аднаго, а лепш двух-трох чалавек. Але як ты іх прымусіш падпісацца пад тым, чаго не было".

Васіль у поцемках намацаў месца на споднiках, дзе павінен знаходзіцца адзіны гузік, і асцярожна прытуліўся да сцяны. Гузіка не было. І тады ён, падрытліваючы споднікі, задуменна паклыпаў у хату. Перад самым ганкам яму пачулася ціхае казлінае бляянне. Васіль азірнуўся. Любімая каза Люлька даядала крупеню, змешаную з мышынай атрутай, якой Васіль збіраўся пачаставаць суседскага ката, што панадзіўся да яго ў хлеў лавіць мышэй. Забыўшыся на згублены гузік, Васіль аберуч ўхапіўся за вядро з кашачым “ласункам”. Споднікі, якія нішто больш не ўтрымлівала, імгненна апусціліся ніжэй каленяў. Не разумеючы, што адбываецца, каза падхапіла вядро рагамі і знікла ў глыбіні хлява.

Раніцой, выцягваючы акалелую любіміцу з панадворка, Васіль чамусьці ўспомніў прымаўку пра яміну, якую не трэба капаць для іншых.

## БОСКАЯ КАРА

Кіраўнік зямельнага аддзела Агафон Кузьміч Пацук дачытаў скаргу і падумаў: «Ну вось, шаноўны, ты і папаўся! Колькі разоў даваў табе зразумець, што свайго кіраўніка трэба частаваць, ды не абы-як. А ты ўсё бедным дурнем прыкідваўся. Жывеш ля возера, ляшчы там водзяцца амаль пудовыя, ведаю не з чужых слоў. Акрамя таго, на трох гектарах тэрыторыі былога цаглянага завода ўмудраешся кожны год утрымліваць дзвюх-трох кароў, некалькі коней, каля дзесятка авечак ды яшчэ накошваць тон пятнаццаць сена. Мог бы і падзяліцца. Дык не...»

Агафон Кузьміч запрасіў старшыню пасялковага савета, заехаў за Васілём Дубнякоўскім, аўтарам скаргі, і ў гэтакім складзе накіраваўся да невялікай фермерскай сядзібы, на гаспадара якой, Кандрацiка, і была скарга.

На момант прыезду высокага кіраўніцтва фермера дома не было. Агафон Кузьміч абышоў усю тэрыторыю гаспадаркі. Прысеў на лаву, якая стаяла ля агароджы, і саставіў невялікую, але важную паперу. «Адным ляшчом ты цяпер не абыдзешся», – падумаў ён і сеў за руль УАЗіка. Ад'ехаўшы два-тры кіламетры, ён раптам успомніў, што забыў на слупе фермерскай агароджы сваю папку з паперамі ды заробкам, які атрымаў раніцой перад паездкай. Развярнуўшы машыну, ён нацянькі паімчаў да фермерскага слупа. Яшчэ здалёк Агафон Кузьміч убачыў белы статак ля таго месца, дзе павінна быць ягоная папка. Пад'ехаўшы бліжэй, ён убачыў больш двух дзесяткаў Васілёвых коз і авечак, якія няспешна ласаваліся фермерскай пшаніцай. А самы вялікі ды сыты казёл з вострымі рагамі церушыў папку, якая звалілася са слупа, жомкаючы і раскідваючы ва ўсе бакі каляровыя паперкі. Агафон Кузьміч прыгледзеўся і зразумеў, што каляровыя паперкі не што іншае, як ягоны заробак. Абураны да глыбіні душы, ён выскачыў з машыны і кінуўся да казла. Але рагата-барадаты злыдзень і вухам не павёў. Коса зірнуўшы на няпрошанага госця, ён старанна працягваў жаваць пачак пяцімільённых купюр.

Прадчуванне нядобрага працяло ўсю сутнасць Агафона Кузьміча. Ен пашукаў вачыма што-небудзь такое, чым бы можна было пульнуць у казла. Але, акрамя голага калгаснага поля, на вочы нічога не трапіла. Тады ён павярнуўся спінай да казла і ўбачыў на зямлі перад сабой ладны кавалак жардзіны ад разламанай фермерскай агароджы. Агафон Кузьміч нахіліўся, ухапіўся за яго дзвюма рукамі, спрабуючы адарваць ад зямлі ды травы і пры гэтым паспеў з асалодай падумаць: “Цяпер паглядзем, які ты смелы!” І ў гэты самы момант удар у ніжнюю частку таго месца, якое ў народзе называецца мяккім, абрынуў яго на зямлю.

Боль быў настолькі моцны, што Агафон Кузьміч не змог стрымаць моцны і працяглы стогн. Аддаючыся пачуццю самааховы, ён павужачы папоўз да машыны. Адчыніўшы дзверцу УАЗіка і намацаўшы рукой манціроўку, Кузьміч азірнуўся. Казёл стаяў у баявой стойцы, нахіліўшы галаву ўніз, гатовы ў любы момант здзейсніць чарговы “подзвіг”. Але перад яго вачыма больш нікога і нічога не было. Агафон Кузьміч падняўся з манціроўкай у руках, ад крыўды перахапіла дыханне. Пераадольваючы боль, шырока расставіўшы ногі, ён рушыў на рагатага ворага. Між тым апошні пільна сачыў за паводзінамі Кузьміча. Раптам ён матлянуў галавой, падскочыў і з усёй казінай прыццю панёсся ў бок фермерскай пшаніцы. Сабраўшы нямногае, што засталося ад заробка, кіраўнік зямельнага аддзела сеў у машыну. Нечакана аднекуль ззаду Кузьмічу выразна пачулася: «Боская кара. Боская кара». Агафон Кузьміч азірнуўся. Барадаты казёл стаяў ля агароджы і бляяў, упёршыся рагамі ў слуп.

# НЕБЫВАЛАЯ ПРЫГАЖОСЦЬ

Галоўны вертыкальны кіраўнік аднаго з раёнаў “рынкавага сацыялізму” дачытаў акт, складзены ў зямельным аддзеле на нейкага фермера. У акце сцвярджалася, што на полі, якое фермер выкарыстоўвае пад выпас скаціны, месцамі сустракаецца мох. “Калгасныя палі ўсе пазараслі мохам. Што ён прычапіўся да гэтага фермера?” – падумаў Казімір Францавіч і пачаў далей разбіраць прынесеную сакратаркай пошту.

Крыху пачытаўшы чарговую паперу, ён зразумеў, што гэта скарга таго самага фермера. Сутнасць скаргі была ў тым, што кіраўнік зямельнага аддзела Агафон Кузьміч Пацук восьмы год сабатуе выдзяленне зямлі для пашырэння гаспадаркі. Казімір Францавіч задумаўся. З аднаго боку, ён разумеў, што людзям, якія нягледзячы на розныя перашкоды, яшчэ маюць жаданне працаваць на зямлі, трэба даць магчымасць. Павялічыцца харчовы дабрабыт раёна, паменшыцца злачыннасць, узрастуць паказчыкі, а там, глядзіш, і ў прэзідэнты абяруць. Але ён добра ведаў і тое, што амаль кожны дзень тая ці іншая частка насельніцтва трапляе ў найвялікшую няміласць. То раптам з’яўляецца мноства “нячэсных” людзей, то па ўсёй краіне пачынаюць поўзаць нейкія “блыхастыя вошы”, то як снег на галаву з усіх бакоў вылазяць непакорлівыя “дерьмократы”.

Фермераў ужо ў другі раз накіравалі на перарэгістрацыю, а, каб жыццё ў перапынках паміж дойкамі кароў ім не здавалася мёдам, увялі сацыяльны падатак у дзве мінімалкі на чалавека штомесяц. Таму, каб не трапіць у кагорту “нячэсных”, трэба прыняць рашэнне, пры якім і козы будуць цэлыя, і ваўкі сытыя. Крыху падумаўшы, Казімір Францавіч вырашыў аддаць фермеру вялікае поле за лесам. Праўда, туды праз лес, акрамя воўчых сцежак, няма ніводнай дарогі, але ж менавіта ў гэтым і хавалася ўся мудрагелістасць прынятага рашэння.

Казімір Францавіч устаў з-за стала, падышоў да акна, адхінуў аксамітныя занавескі і адчыніў фортку. Свежае паветра абуджальным струменьчыкам абвеяла твар. Вялікае чырвонае сонца, якое запаланіла заходні край неба, пасылаючы на зямлю апошнія ласкавыя, цёплыя прамяні, павольна апускалася за небакрай. Прыгажосць была непаўторная. Ён адчуў невядома адкуль наплыўшы ўздым духоўных і фізічных сіл. У гэты момант у дзверы прасунулася постаць Агафона Кузьміча Пацука. Убачыўшы апошняга, гаспадар кабінета адышоў ад акна, сеў на сваё законнае месца і неяк задуменна прамовіў: “Кузьміч, усе робім абы-як і зусім не па-людску. Вырашыў я накіраваць цябе на курсы павышэння кваліфікацыі на захад раёна ў адну з фермерскіх гаспадарак. І не трапляй мне на вочы, пакуль не вырашыш пытанне як трэба”.

## ДАМОВІЛІСЯ

Цётка Вольга распрамілася, як толькі магла, заклала рукі за спіну, адну нагу выставіла крыху наперад і па-жаноцку ветліва звярнулася да суседа-фермера:

– Валодзя, можа ты падзярбачыш соткі дактарам? Яны прасілі, каб я дамовілася.

– Хоць дактары і не любяць плаціць, але, калі ты так шчыра просіш, зраблю. Плата будзе роўнай кошту дзвюх бутэлек гарэлкі.

– Хай сабе і так, - пагадзілася Восіпаўна.

З’явіўшыяся ў канцы дня, Сцяпанавіч з жонкай Тамарай убачылі ў пух выробленую зямлю.

– Восіпаўна, колькі ён садраў з нас? – тут жа пацікавілася Тамара.

– На дзве бутэлькі гарэлкі, менш, кажа, не атрымліваецца.

– Ай, ай, ай!.. Во драпежнік, знайшоў дзе паласавацца. Ты не ўмееш, Восіпаўна, дамаўляцца. Дарэчы, заўтра Пугач будзе нам лехі рабіць. Я з ім дамовілася, прыходзь, пабачыш, як трэба дамаўляцца. На наступны дзень, калі прыехаў на кані Пугач рабіць лехі, Восіпаўна пацікавілася, колькі той возьме за работу.

– Тамара казала, што па каню і корм будзе. Мабыць, ведае, што калгасныя коні худыя. Але пагадзілася, што добра зробленая праца добрай капейкі варта. Праўда, паабяцала сама вызначыць, якая атрымаецца праца. – Неяк задумёна патлумачыў Пугач.

Неабходна адзначыць, што гэты Пугач сапраўдны прайдзісвет. Раней ён пасвіў кароў у суседнім калгасе. Пасля таго, як некалькі рагуль зніклі, яму прыйшлося адтуль збегчы. Цяпер ён карміўся на пенсію бацькоў - калгаснікаў, у якіх і жыў, кінуўшы дзяцей і жонку.

Калі лехі былі зроблены, да Пугача на веласіпедзе пад’ехаў сябра, і яны, нешта весела абмяркоўваючы, падаліся да крамы. Раніцай прыехалі дактары і не паспелі зайсці ў хату, як тут жа з’явіўся Пугач.

– Ну, як работа, ці добра? - пацікавіўся ён.

– Добра, добра, – адказала Тамара. – Сядай, паабедай з намі, напэўна, галодны.

Пугач быў галодны, бо з раніцы, акрамя шчаўя і кавалка чорнага хлеба, у рот яму нічога не трапіла. Ну, але ж ці гэта трэба мужыку няпоўных сарака год, які любіць добра папрацаваць, выконваючы цяжкую мужчынскую работу, дапамагаючы той ці іншай суседцы?

Пугач, прыдаўшы сабе сур’ёзны выгляд, запытаў, дзе памыць рукі. Тамара паказала яму на ўмывальнік, побач з якім вісеў белы

ручнік і ляжаў кавалак мыла. “Дарагі госць” панюхаў мыла Самау classique, спаласнуў рукі вадой, выцер іх аб штаны і ўсеўся за стол. Гаспадыня паставіла перад ім бутэльку гарэлкі і з усмешкай сказала:

– Хоць праца і невялікая, але чаркі каштуе.

Пугач не звярнуў ані якай увагі на яе словы: адкаркаваў бутэльку, наліў усім поўныя чаркі, сказаў:

– Будзьце здаровы! – і выпіў.

Калі была пачата другая бутэлька, ён ужо, як свайго сябра, пахлопваў Сцяпанавіча па плячы. Падмігваючы Тамары, пачаў расказваць, як нялёгка яму было працаваць у суседнім калгасе намеснікам старшыні. Магчыма, ён забыўся, што працаваў там толькі пастухом. Так ці іначай, але заглынуўшы чарговы кавалак вэнджанай каўбасы, Пугач казаў:

– Вы думаеце, мне проста там было? Старшыня нап’ецца, вядома – баба, колькі ёй трэба, і спіць. А мне: і на сход, і лятучку праводзіць, і з пастухамі разбірацца, чаму цёлак не хапае. Нездарма рукі да цяперашняга часу дрыжаць.

– Дык можа яны ад гарэлкі? – паспрабавала абразуміць яго Тамара.

– Ну што ты, – адказаў Пугач. – Гэта я тут крыху расслабіўся. А так, не... Хіба які келіх Hennessi перад сном ну і раніцой шампанскага, каб лягчэй уставаць. Але, што тое шампанскае – памыйкі.

Калі ўсё выстаўленае было з’едзена і выпіта, Пугач вылез з-за стала, абапёршыся на плячо Сцяпанавіча. Ушчыкнуў за бачыну Тамару і вымавіў:

– Дзякуй, але як і дамаўляліся, за добрую работу – добрую капейку.

– Што ж ты яшчэ хочаш? – аж прысела ад нечаканасці Тамара.

– Больш нічога. Учора Васька вам грошы прывозіў за лекі, якія вы куплялі яго хворай маці, дык мы іх прапілі. Карацей кажучы, лічыце, што вы са мной разлічыліся.

І паходкай звычайнага п’янюгі Пугач падрыпаў да старой бацькоўскай хаты, дзе яго чакала міска поснага шчаўя і невялікі кавалак чорнага хлеба. Але сёння ён быў ужо сыты.

## ГОРКІЯ “ЛЕКІ”

Іван Сцяпанавіч задуменна сядзеў на лаўцы. З блакітнай вышыні шчодра прыпякала ўсе часткі цела травеньскае сонца. Шматлікія птушыныя галасы гучалі на ўсе лады, нібы сцвярджаючы, што гэта і ёсць той самы райскі куток: з садам, шпакоўнямі на дрэвах, кветкамі сярод прыземленай рэчаіснасці беларускай вёскі.

Насупраць, кроках у дваццаці, маладая суседка Ірына садзіла ў прагрэтую зямлю расаду агуркоў.

“Як гэта жанчыны гадзінамі могуць стаяць на прамых нагах, нахіліўшыся над ляхой, нібы чапля ў час палявання? – падумаў Іван Сцяпанавіч. - І ногі амаль як у чаплі, толькі таўсцейшыя. А спіна ў яе якая шакаладная ад загару. Вось бы ...”

Але ў гэты момант Ірына распрасталася, пацягнулася і, убачыўшы суседа, прамовіла: “Што, Сцяпанавіч, сумуеце? Распранайцеся, загарайце. Вунь як сонца прыпякае!”

Сцяпанавіч не паспеў нічога ёй адказаць, бо рыпнула жалезная брамка, і Вольга Восіпаўна, яшчэ адна суседка, нібы гром сярод яснага неба, спалохана ўсклікнула: “Іван Сцяпанавіч, ля тваёй брамкі жонка Рубана, Ганна, памірае! Ідзі хутчэй! Ты ж доктар, можа, яшчэ і выратуеш”.

Калі Сцяпанавіч падбег да Рубаніхі, то ўбачыў паўляжачую на зямлі жанчыну, рукі якой дрыжалі, прыпухлы твар невыразнага колеру быў перакошаны, і можна было дапусціць, што яна робіць апошняе дыханне ў сваім жыцці.

“Як жа яе лячыць? – выгукнуў збянтэжаны доктар, выразна адчуўшы пах гарэлкі. – У мяне з сабой няма ніякіх лекаў”.

Восіпаўна, уважліва паглядзеўшы на Рубаніху, потым на Сцяпанавіча, выдала неабходны рэцэпт: “Клін клінам выбіваюць. Дай ты ёй, Сцяпанавіч, пахмяліцца. Памятаеш, тут летась мужык памёр, якому на наступны пасля п'янкі дзень сто грамаў не далі? Гэта таксама можа здарыцца і з ёй. Нясі гарэлку”.

“Яшчэ возьме і сапраўды памрэ”, – падумаў Іван Сцяпанавіч і хуценька вынес паўшклянкі першаку. Убачыўшы “лекі”, Рубаніха крыху ачуняла, паспрабавала ўстаць на ногі. Але з вялікім намаганнем стала толькі на калені і дрыжачымі рукамі абхапіла доктара за ногі. Адкінуўшы галаву, Ганна адкрыла рот і прастагнала: “Лей, дорогой, а то у меня руки дрожат и я в рот не попаду”.

Сапраўдны доктар у любых абставінах застаецца доктарам. Лячыць - яго абавязак. І Сцяпанавіч, прыставіўшы гранёную шклянку да ляскаючых зубоў Рубаніхі, выліў у яе рот горкія “лекі”.

А хвілін праз пятнаццаць, прымасціўшыся на лехі, дзе Ірына пасадзіла агуркі і прыкрыла плёнкай, каб хутчэй узышлі, Рубаніха, падставіўшы твар сонцу, моцна храпела, а часам і пасвіствала, дапаўняючы птушыныя спевы.

## СМЕРЦЬ ЛІТАРАТАРА

Васіль Пятровіч зірнуў на стос рознакаляровых сшыткаў і зняможана прысеў.

– Вось і ўсё, – праплыло ў галаве, – нічога нікому не спатрэбілася.

А былі гэта яго асабістыя літаратурныя творы. Праўда, большая частка з іх адлюстроўвала падзеі тых часоў, калі вялікія дзяржаўныя мужы цалаваліся адзін з адным так аддана, што жанчынам заставалася толькі сумна ўсміхацца. Але Пятровіч не прытрымліваўся гэтай эпахальнай моды. Яго вершы былі пра каханне да жанчын, пра лета, восень і, нават, пра катоў і сабак. Вось такі своеасаблівы быў гэты чалавек.

“Склаў бы хоць адну пахвалу, накшталт старажытнагрэчаскага дыфірамбу, у гонар якога-небудзь вялікага кіраўніка, – падумаў ён, – можа б ляжаў зараз у сталічным шпіталі, а не падводзіў апошнюю рысу ў пустой халоднай хаце”.

Сэрца калацілася з неверагоднай арытміяй, на ілбе адчуваўся халодны пот, і канец падаваўся непазбежным.

Сюды нават на пахаванне дабрацца будзе нялёгка. Аўтобус бывае два разы на тыдзень, дарогі такія заснежаныя, што і пешшу далёка не прабʼешся. Канешне, каб былі патрэбныя лекі, дык, можа, і выкарабкаўся. Але хто ведае, якія трэба? Хто цябе абследуе ў гэтай вясковай глухамані? Гэта там, у горадзе, на кожны палец па доктару, ды і то не для ўсіх...” Страху ў душы не было, было сумна.

“А што станецца з хатай, садам, ды ўсім тым скарбам, які застаўся ў спадчыну ад бацькоў, Жулькай, гучны брэх якой быў галоўнай перашкодай на шляху злодзеяў? Усё разрабуюць, расцягнуць і прапʼюць мясцовыя аматары паласавацца з чужога мазаля, накшталт суседа Лёнькі, якога мясцовыя бамжы называюць “бацькам”. А гэты “бацька” ў мінулым годзе падчас рабавання суседзяўпенсіянераў ускінуў пятлю на шыю гаспадарскаму ахоўніку – Палкану, перакінуў канец вяроўкі праз сук яблыні, што расла побач з будкай, ды і павесіў бедака, – каб менш звягу было,– як хваліўся потым сваім паплечнікам па промыслу... Трэба хоць у паперах навесці парадак, а лепей за ўсё спаліць”, – закончыў свае разважанні Васіль Пятровіч.

Агонь шугаў у печы так, што сядзець ля адчыненых дзверцаў рабілася горача. Пятровіч адсунуўся далей, сціснуў чарговы папяровы пук і засунуў нікому не патрэбныя паперы ў печ. І пакуль тыя гарэлі, разгарнуў чарговы сшытак і прачытаў:

“Вашы вусны – ад сонейка светлага,
Вашы рукі – пяшчота духмяных лугоў.
І ад позірку чыстага, яснага, ветлага,
Ў захапленні стаю, не знаходзячы слоў”.

Нешта пачало ўспамінацца але знядужаныя рукі разышліся і сшытак выслізнуў на падлогу. Ён асцярожна і павольна нахіліўся і

дрыжачымі пальцамі падняў зноў. Адгарнулася іншая старонка, і на вочы патрапілі радкі верша пра Купалле:

“Ах, якая ты салодкая,
Мая лепшая знаходка.
У купальскай цудоўнай начы...
Пацалуй яшчэ! Саграшы !”

Цёплая хваля ўспамінаў прынесла жаданне прачытаць верш да канца. Недзе далёка, у глыбіні свядомасці, абудзілася цікавасць да жыцця, і Васіль пачаў чытаць усё запар. Апамятаўся ён, калі ў хату з апошнім прамянём заходзячага сонца, пачало настойліва прабірацца таямнічае сутонне. Васіль Пятровіч выпіў гарбаты і лёг спаць. Заснуў адразу, але ноччу прысніўся яму сон, нібы самы галоўны кіраўнік загадаў да раніцы расчысціць ад снегу ўсе вясковыя дарогі, каб ён, Васіль, змог наведаць мясцовую амбулаторыю, што знаходзіцца ў дванаццаці кіламетрах ад яго хаты. Далей спалася добра, і таму прачнуўся Пятровіч бліжэй да поўдня, калі сонца весела ўсміхалася за акном, а ў дзверы хаты нехта настойліва грукаў. Васіль Пятровіч вылез з-пад коўдры, спаласнуў твар вадой і адчыніў дзверы. На ганку стаяла паштальёнка Тамара, якая прыехала на калгасным трактары і прывезла запрашэнне на чарговыя выбары. Пятровіч моўчкі паклаў запрашэнне на стол, апрануў паліто і праз паўгадзіны, з дапамогай Тамары, апынуўся ў прыёмным пакоі мясцовай бальніцы. Галоўны ўрач, Алена Яўгенаўна, прыклала шмат намаганняў, і праз два месяцы Васіль Пятровіч адчуваў сябе здаровым саракапяцігадовым мужыком.

І ўсё было б добра, ды вясной трапілася яму сустрэцца з Марынай, маладой, прыгожай жанчынай, якая раней працавала недзе за мяжой, а зараз вярнулася да бацькоў і жыла ў суседняй вёсцы. Пазнаёміліся яны выпадкова на возеры. Васіль Пятровіч падкормліваў пару белых лебедзяў: штодня прыносіў ім хлеб, панцак, і птушкі падплывалі да яго на адлегласць выцягнутай рукі. Марына спачатку толькі назірала, а потым і сама далучылася да сяброўства.

Звычайна яна прыязджала да Васіля Пятровіча на белым “Фордзе”. Бывала, ён сам садзіўся да яе ў машыну, і яны знікалі на доўгія гадзіны з поля зроку вясковых бабуль. Іх неаднойчы бачылі на ўскрайку леса, сярод белай чаромхі, ля квітнеючых ліп і нават у купальскую ноч, ля вялікага вогнішча. Але потым нечакана для ўсіх Марына зноў з’ехала за мяжу, на заробкі.

Усё адбылося імгненна. Сэрца Васіля Пятровіча не вытрымала гэтага выпрабавання. Не дапамаглі валідол і нават Алена Яўгенаўна.

Пахавалі яго на гарадскіх могілках, дзе была пахавана ягоная радня. Усе ягоныя паперы забраў сусед Лёнька і амаль усю зіму

распальваў імі печ. А неяк пад час п’янкі нават прызнаўся: “Хоць я і сапраўды злодзей, але скраў у яго толькі лодку ды рыбацкія прылады. Праўда, Жульку…” – але ў гэты момант Лёнька папярхнуўся, закашляўся, а калі, нарэшце, адпусціла, то, забыўшыся аб чым ішла гаворка, вымавіў: “За Бацьку”, – і хлабыснуў чарговую шклянку самагону.

## З НОВЫМ ГОДАМ!

Галоўны рэдактар вядомай газеты “Блудніца” Галіна Васільеўна Прыгожая была ні жывая ні мёртвая. Гэткае здараецца не часта. Самы галоўны паганскі бог выклікае і – адразу аж на сёмае неба. Ну, хай сабе Дамавік, Лясун, ці нават Ярыла або Пярун – магла б зразумець. А тут – бог- Сонца, і адразу ж на сёмае…

– Чаго ён хоча ? – сэрца радасна забілася. – Няўжо ? … Але не, не. Згінь, нячысцік! Згінь, не прымушай чырванець ад грэшных думак.

– І тым не менш, гісторыя ведае і не гэткае… Варта прыпомніць хоць бы грэчаскага бога Зеўса. З кім толькі шашні не вадзіў. Нават пазашлюбныя дзеці былі. Прыкладам першы цар Егіпта Эпаф быў пазашлюбным сынам Зеўса і прыгажуні Іо.

– Не, не. Госпадзі, даруй і памілуй !

– А што, калі сапраўды ? … Ад шчасця перахапіла дыханне.

Зранку схадзіла ў лазню. Добра папарылася бярозавым венікам. Умасціла цела не замежнай духмянай мазюю, а настоем рамонкаў, валошак, мяты і іншых лугавых траў. І прыцемкамі, як булгакаўская Маргарыта, адарвалася ад зямлі.

Калі мінула пятае неба, убачыла свайго прадзеда, які з вялікім мяхом падарункаў ехаў на белых, у яблыкі, рысаках. Ён заўважыў яе. Радасна памахаў рукой. Выхапіў з мяха вялікі пакунак з каляровымі залацістымі цукеркамі, грэцкімі арэхамі, апельсінамі, шакаладкамі і кінуў ёй. Але, на жаль, схапіць яго яна не паспела, бо пачалося сёмае неба. Тут шаноўную Галіну Васільеўну сустрэў вясёлы і гарэзлівы бог кахання Эрот, або Амур – сын багіні Афрадыты. І, нарэшце, яна ўбачыла святло, шмат святла і яго самаго – бога-Сонца.

– Нарэшце !.. Дачакалася! Няўжо зараз гэта і адбудзецца?... Ногі яе пачалі подкошвацца, перасмяглыя вусны адчулі небывалую асалоду, і нешта вялікае і цёплае напаўняла ўсё яе цела. У галаве мільганула думка, што яна губляе прытомнасць. Але ў гэты момант да яе слыху данеслася: “Што хвалюешся, мілая? Справы твае ідуць – лепей не прыдумаць ! Як мне вядома, нават багі Алімпа падпісаліся на тваю газету. Праўда, некаторыя з іх спрабавалі аднеквацца, дык Пярун так грымнуў у паднябессі, што ўсім ім неба з аўчынку здалося. І падпісаліся не толькі самі, але і падначаленых прымусілі. На ўсе сто

працэнтаў, як у былым СССР. А выклікаў я цябе, каб павіншаваць з Новым годам, а праз цябе і ўсю краіну”.

Галіна Васільеўна прачнулася, азірнулася, паспрабавала ўбачыць хоць што-небудзь з таго, што прыснілася. Але за вокнамі ішоў звычайны белы снег. На стале стаяла пустая бутэлька з-пад шампанскага. А на календары ніжэй слоў: “З Новым годам !” добра бачылася: 1 студзеня 2006года.

## НАВАГОДНЯЯ КАЗКА

Пад Новы год заўсёды адбываюцца нейкія цуды. Мы нібыта ведаем пра гэта, чакаем іх, але, калі яны з'яўляюцца, то не заўважаем ці наогул не верым, што гэтыя самыя цуды побач з намі.

Вось калі добра падумаць, дык ці не цуда тое, што пад Новы год нас нехта ці нешта гоніць з хаты, і добра, калі толькі на рынак, а калі ў лес... Мароз, сцюжа, снегу па калені, але мы ўпарта блукаем між розных дрэў і пільна ўглядаемся наўкола, нібы нешта згубілі. І нарэшце знаходзім тое, што ніколі не гублялі. Вось яно: прыгожае, пышыстае, у белым убранні, з водарам лесу, які чаруе і захапляе нас. І нам здаецца, што гэта сапраўдны цуд, больш таго, мы чамусьці адносім яго да жаночага роду. І далей ужо кажам – Яна. А наперадзе нас чакаюць куды больш значныя і цікавыя з’явы. У нас не хапае цярпення. І мы ў лесе пачынаем распранаць яе. Здымаем белую шубку, абдымаем, прытуляем, падымаем. І да такой ступені губляем пачуццё самазахавання, што наша рука кладзецца ёй на нагу, а яе самую бяром на рукі і нясём дахаты.

Прынесшы дамоў, мы ставім гэтую прыгажуню на самым відным месцы і спрабуем пагладзіць яе, а яна, як тут жа высвятляецца, – калючая. Абыходзім з усіх бакоў, больш уважліва разглядаем знізу, зверху, справа, злева і заўважаем, што не такая яна і пушыстая, і што недзе крыху крывенькая, і што нехта зламаў на ёй да замілавання прыгожую галінку.

Але, што з таго? Яна ўжо ў нашым сэрцы, яна частка нас. Як ёй удалося? І гэта той цуд, які мы, мужчыны, не здольныя ніколі зразумець. Нам застаецца толькі прымяраць на ёй featureзнае ўбранне, шчыра здзіўляцца яе цярпенню, калі мы дапамагаем ёй замацоўваць розныя пірсінгі на самых нечаканых месцах яе асобы, не шкадаваць апошніх грошай, каб набыць для яе Вялікасці бліскучыя завушніцы, шукаць найбольш “прасунутыя” сучасныя цацкі, з дапамогай якіх яна можа размаўляць з намі. І калі мы настойлівыя, то наша праца не прападае дарма.

Нам нават не дадзена заўважыць, як гэтая калючая лясная елка ператвараецца ў прыгожую жанчыну, што побач з намі. Мы і не

ўспамінаем, дзе знайшлі яе, колькі ўклалі ў яе ўласнага старання, колькі пралілі поту? Мы проста бачым побач з сабой цуд. Цуд, бо пасапраўднаму так і не ведаем, што ж такое жанчына? Чаму яна нам падабаецца? Чаму яна ў нашым сэрцы, у думках, ды невядома дзе яшчэ? Чаму ў рэшце рэшт мы гатовыя змагацца з чым і кім заўгодна, каб яна стала нашай? Навошта яна нам? І ці можам мы пражыць без яе? Канешне, можна паспрабаваць і без яе. Але ці варта гэтае рабіць, бо яна наш цуд. А без цудаў жыццё не жыццё...

## ВЕРУЮЧАЯ АТЭІСТКА

Яшчэ ніколі Галін сваяк Лявонцій, а заадно і палюбоўнік, не быў так блізка да правалу, як гэтым разам.

“Як што прадчуў, прыпёрся”,– падумала Галя пра ўладальніка багатага, але ўшчэнт абрабаванага летніка. Людзі прыехалі за “таварам” – і ён тут. А яшчэ міліцыю выклікаў, а тая ўзяла ды прыехала. І што тут рабіць? Дзве машыны, набітыя абрабаваным, стаяць, прысеўшыя амаль да зямлі, як і іх уладальнікі з зімовымі вудамі над лункамі. Трэба ж неяк маскіравацца. Але, здаецца, пранесла. Міліцыянты дзеля прыліку апыталі дзвюх мясцовых бабуль і з’ехалі, нават не падышоўшы да тых машын. Затое тутэйшых жыхароў, як кажуць, на мякіне не правядзеш. Галя, як угарэлая, абляцела амаль ўсе хаты і ўсюды пачула адно: абрабаваў ён, Лёня. Прытым, некаторыя нават сцвярджалі, што тое-сёе бачылі. Трэба было зрабіць нешта неардынарнае, выдумаць, схлусіць, каб накіраваць паток людскіх думак і размоў у іншае рэчышча. Яна ўспомніла, як першы раз схлусіла мужыку, прыйшоўшы пад раніцу ад сваяка. І Бог нібыта не пакараў. Пасля гэтага Галя хлусіла заўсёды, магла нават перажагнацца, пацалаваць крыж, паклясца здароўем дзяцей, бо была ўпэўнена, што гэта ўсяго толькі словы. Але затое як гэтыя словы дзейнічалі на людзей! Людзі пачыналі ёй верыць незваротна і назаўжды. Праз нейкі час да яе зайшла Дуня, гаспадыня абрабаванага летніка. Яны пасябравалі асабліва моцна з таго моманту, калі Галя зразумела па паводзінах Лёні, што рана ці позна, але гэты летнік будзе абрабаваны. Стан зайшоўшай быў вядомы – гора. Але тут жа было і вялікае жаданне даведацца хто і, само сабой зразумела, – пакараць. Таму пытанне, – Як ты думаеш, хто гэта зрабіў, – з вуснаў Дуні прагучала натуральна. Ад адказу на яго залежаў не толькі лёс сваяка, але і Галін асабіста. Бо калі сапраўдны рабаўнік будзе выяўлены,то, безумоўна, будзе парушаны той знешне прыстойны стан яе адносін з Лёнікам. А менавіта гэтага ёй якраз зусім і не хацелася. Па-першае, як бы там ні было, а ўсё ж мужык.

Жыццё на вёсцы без мужчынскае сілы не мёд. Па - другое, жонка Лявонція прыязджала ў лепшым выпадку на два - тры дні ў месяц, і ўвесь астатні час Лёня належаў Галі. Праўда, часцюхенька бавіў час за шклянкай гарэлкі ў кампаніі мясцовых “аўтарытэтаў”. Але, што з таго? Затое калі-нікалі мог пачаставаць Галюсю добрай рыбінай, бо любіў парыбачыць, асабліва чужымі сеткамі. Аматары рыбнай лоўлі звычайна ставілі машыну ля Лявонцевай хаты, налівалі яму келіх гарэлкі, каб прыглядаў за аўто, частавалі цыгарэтай і пыталіся:

“Дзе тут, Лёнька, лепш рыба ловіцца?” “Вядома там, дзе ў возера рэчка ўпадае. На свежую ваду, як шаленая прэ, абы сеткі добрыя”. Сеткі, зразумела, заўсёды былі добрыя, бо, інакш, чаго ехаць? І Лёньку заставалася толькі на некалькі хвілін выйсці з хаты, каб выцягнуць пастаўленыя сеткі разам з рыбай драўлянай кашкай, прывязанай да моцнага капронавага шнура і загадзя закінутую ў возера. Пасля гэтага ён развітваўся з “рыбакамі”і клаўся спаць. Бо глядзець, як аматары рыбнай лоўлі пачыналі шукаць пастаўленыя імі сеткі, яму даўно надакучыла.

Некалькі часу Галіна задуменна глядзела сабе пад ногі, нібы хацела ўбачыць там нешта такое, што не дадзена бачыць іншым, ці, можа, абдумывала адказ на пастаўленае пытанне і, у рэшце рэшт, глянуўшы Дуні ў вочы, мовіла:

“Я дапамагу табе не толькі знайсці злодзея, але і пакараць яго. Тут не вельмі далёка жыве чараўнік. За дзень паспееш туды і назад. Едзь да яго, папрасі вады і акрапі ёю хаты. А там пабачым...” Неўзабаве ўсё сказанае было зроблена. І хоць мала хто з вяскоўцаў верыў у розныя забабоны, прадчуванне нечага нядобрага пачало кружыць у паветры. І гэтае самае прадчуванне па - сапраўднаму збылося. Праз тры месяцы нечакана для ўсіх памёр мужык Дуні – гаспадар абрабаванага летніка. Пасля пахавання мужа Дуня за добрыя грошы прадала ўсе пабудовы летніка, але далейшае жыццё не атрымалася. Яна звар’яцела. А ў гадавіну смерці Дунінага мужа згарэў разам з хатай і бліжэйшы Лёнькаў сябра. Як гэта атрымалася, ніхто не ведае. Толькі добра вядома, што за тры гадзіны да пажару Лявонцій і ягоны сябра частаваліся гарэлкай, якую незадоўга да вар’яцтва прынесла Дуня і пра якую Лёнька забыўся, будучы на добрым падпітку. А зараз ўспомніў. Магчыма, згарэў бы і ён, але прыехаўшая жонка запатрабавала Лявонція дахаты.

ЗМЕСТ

